PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 25 (2197) Год XLIII Беласток 21 чэрвеня 1998 г. Цана 1 зл.

# Савецкі drink

Васіль Кургановіч

Польскі спірт калісьці элітарным асяроддзем успрымаўся амаль як лякарства. Пажылыя людзі пры ўдзеле гэтага кампанента рабілі ўсялякія мікстуры, якімі лечылі хворае горла, страўнік, сэрца, рэўматычныя недамаганні. Але гэта ўжо толькі гісторыя. Дэградацыя польскага спірту пачалася разам з яго экспартам у краіны былога Савецкага Саюза. Невядома за якую цану ахвяравалі палякі „агністую ваду" сябрам з Усходу. Відаць, прадавалі яе ў некалькі разоў танней чым на сваім унутраным рынку, таму што вялікая частка гэтага экспарту вярталася ў Польшчу, дзякуючы дзесяткам тысяч дробных прадпрымальнікаў, якія штодня па некалькі бутляў увозілі праз мяжу на базары Гайнаўкі, Беластока, Ломжы, Варшавы і г.д. Відаць, мелі яны з гэтага нейкі прыбытак, калі, нягледзячы на ўсялякія абмежаванні на мяжы, рух у гэтым інтарэсе пастаянна раскручваўся. Амаль кожную вёску на тэрыторыі Беласточчыны сталі наведваць рускамоўныя людзі, якія прапанавалі сялянам танны польскі спірт, азербайджанскі каньяк, нямецкую гарэлку. Зрэдку маюць яны беларускія ці рускія спіртныя напіткі.

Ад некалькіх гадоў Беларусь і Расія спынілі імпарт спірту з Польшчы, аднак рускамоўныя гандляры прадаюць яго безупынна на базарах і вёсках Беласточчыны. Шмат таксама гэтага тавару, быццам бы вытворчасці „Polmosu", у руках палякаў. Найбольш яго аднак у армянаў, якія ўжо пастаянна пражываюць у Польшчы.

Адзін са спосабаў вытворчасці польскага спірту выявіў мне, зусім выпадкова, чалавек родам з-пад Ваўкавыска, які гандлюе ім у Заблудаўскай гміне. Быў ён госцем у маім доме. Раней купіў я ў яго літровую бутлю спірту і, разбавіўшы яго вадою, згодна з нашай тутэйшай традыцыяй, хацеў ушанаваць суродзіча. Госць, аднак, рашуча адмовіўся ад майго спірту і запрапанаваў сваю гарэлку з бляшанкі, такой, у якой прадаюць піва. Пасля другой паўлітроўкі запрапанаваў ён мне вярнуць яму куплены мною спірт. „Гэта звычайны ваш дэнатурат, — сказаў мне савет у хвіліне шчырасці, выклікананай беларускай «пшанічнай» і польскай «жытняй». — Нашы хлопцы купляюць у вас у краме скрынку дэнатурату, выліваюць яго ў вядро, пасля дабаўляюць пару кропляў нейкага «ачэ» і дэнатурат робіцца зусім белы", — прадужаў ён. „Але як пазбыцца характэрнага для

[працяг ☞ 3]



*Побач „Зорчынага" крыжа епіскап гайнаўскі Міран і а. Сяргей Корх.*
Фота Ганны Кандрацюк

## *Прыміце ўдзел у нашым конкурсе!*

[*Правілы конкурсу і талон* ☞ 11]

## *Цуды ў Крыначцы*

— Калісь захварэла наша сваячка з Навасад, што з дому ад Сільванюковых. Так ёй страўнік балеў, што не магла ўжо есці. Пасля прысніўся ёй сон, што ў вялікі пост павінна валамі паехаць у Крыначку і там памыцца. Калі яна ўсё гэта зрабіла, дык у дарозе назад аздаравела.

[*рэпартаж* ☞ 9]

## *Беларуская царква на эміграцыі*

Мінула 50 гадоў з дня заснавання Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы на эміграцыі — асноўнага фактара, які спрыяе захаванню тоеснасці і нацыянальнай свядомасці сярод беларускіх эмігрантаў на захадзе Еўропы, у Амерыцы і Аўстраліі.

[*нарыс* ☞ 9]

## *Пачатак вайны ў Чаромсе*

22 чэрвеня 1941 г. разбудзілі мяне моцныя выбухі бомб на станцыі. Задрыжэлі вокны і сцены дома. Я саскочыў з пасцелі, падбег да акна і пачуў у небе такое гудзенне самалётаў, якое запамяталася мне з верасня 1939 г. У пакой убегла маці і з горыччу ды страхам сказала: „Ізноў пачалася вайна!"

[*успаміны* ☞ 10]

# „Пусть еще ярче блестит наша «Зорка»..."

У днях 5-7 чэрвеня ў Белавежы прайшлі XIII Сустрэчы „Зоркі" для дзяцей і моладзі пачатковых і сярэдніх школ Беласточчыны. Сустрэчы „Зоркі" — гэта пластычныя, тэатральныя, краязнаўчыя, літаратурныя, журналісцкія курсы. Сустракаюцца на іх дзеці, зацікаўленыя пазнаваннем свайго краю і яго беларускай мовы ды праяўляюць у гэтым кірунку асаблівую здольнасць. Набіраюцца гэты дзеці з ліку тых навучэнцаў беларускай мовы, якія прадмет гэты трактуюць не толькі ў якасці яшчэ аднаго занятку ў школе, а з роднай мовай звязваюць свой шырэйшы жыццёвы план. Інакш кажучы, гэта дзеці і моладзь, якія вывучаюць беларускую мову, каб выказваць на ёй свае думкі — пісаць інфармацыі ў прэсу, ствараць вершы і апавяданні, наогул думаць на гэтай мове.

Адукацыйная сістэма, якая цяпер у нас, не спараджае зашмат нагод, каб нейкім асаблівым чынам прыцягнуць дзяцей да навучання менавіта беларускай мовы. Прызнаюць гэта самі настаўнікі беларускай мовы, якія сутыкнуліся з Сустрэчамі „Зоркі". Падкрэсліваюць прытым высокую адукацыйную каштоўнасць Сустрэч „Зоркі" — месца, дзе дзеці і моладзь сустракаюцца з беларускім словам у „жывым дзеянні". Несумненна сярод дакладчыкаў Сустрэч „Зоркі" асобай, у вуснах якой для дзяцей беларуская мова гучала натуральна і перакануўча быў, між іншым, беларускі мастак Лявон Тарасэвіч — ён гэта прыдумаў ідэю, каб удзельнікі Сустрэч размалёўвалі крыж, які застаецца як памятка ад паходу „сустрэчнікаў" па Беласточчыне. Думка мастака зразу прынялася і ажыццяўляецца да сённяшняга дня. У Белавежы „сустрэчнікі" размалявалі крыж у памяць айца Клаўдзія Пушкарскага — вельмі паважанага ў тамашняй грамадскасці праваслаўнага святара. 7 чэрвеня крыж гэты высвяціў епіскап гайнаўскі Міран. Звяртаючыся да сабраных ля белавежскага храма вернікаў і ўдзельнікаў Сустрэч, уладыка прыгожа падвёў парудзённую працу моладзі над крыжам у Белавежы і заадно ідэю Сустрэч „Зоркі", кажучы: „пусть еще ярче блестит наша «Зорка» на ниве православного общества".

Словы епіскапа Мірана вартыя тым большай увагі, што выказаны яны насуперак агульнай тэндэнцыі выкрэслівання з грамадскай свядомасці прыгожых і карысных з'яў. „Ніва", яе дадатак для дзяцей „Зорка", Сустрэчы „Зоркі" ва ўяўленні акадэмічнага настаўніка Я. Сычэўскага — гэта брак прафесіяналізму, амаральнасць і абкідванне балотам. Паводле візітатар беларускай мовы Т. Русачык — пляткарскасць і дэмаралізацыя моладзі. Паводле дырэктараў рэгіянальнага тэлебачання (К. Пуцілоўскі, В. Варатынскі) — з'ява, на якую чарговы ўжо раз, па прычынах, не хапае камеры, каб паказаць яе грамадству. А ў рэгіянальным жа радыёвяшчанні, па прычынах, перадача транслюецца ў прамежак часу, прызначаны для... літоўцаў. Усё гэта выпадкова і па прычынах. Выпадкаў такіх і прычын у нас вельмі густа.

**Аляксандр Максімюк**

# Беларусь — беларусы

## Але няма каўбасы

Пералік святкаванняў і ўсялякага роду гістарычных дат, якія абваліліся на Беларусь у красавіку-маі, заняў бы не адзін радок. А апошнім часам да іх дайшлі новыя — Дзень дзяржаўнага герба і сцяга і чарговая гадавіна рэферэндуму, які гэтыя святыні ўстанавіў.

„Чырвоных дзён" у календары больш, чым разынак у велікодным пірагу, і ўсе яны розныя, на любы палітычны густ. Калі ўзяць толькі дні нараджэння або вялікіх ліхадзеяў, або герояў (каму што падабаецца), то можна выбіраць паміж Хрушчовым, Гітлерам, Леніным, Марксам. Карацей кажучы, поўны набор. (...)

Новаўтварэнні ў выглядзе ўжо названага Дня герба і сцяга ў асноўным народу абыякавыя. Беларуская дзяржаўнасць (аб якой дакладна можна толькі сказаць адно — ніхто не ведае, адкуль яна звалілася і што з ёй рабіць) чамусьці не выклікае патрыятычных пачуццяў. Тым не менш, народныя масы двойчы прагаласавалі за яе: у маі 1995 года зацвердзілі прапанаваныя прэзідэнтам атрыбуты дзяржавы, а ў лістападзе 1996 года зацвердзілі яго самога на пасадзе дыктатара. (...)

У народа адносіны да сімволікі вельмі простыя. Аддаючы голас за савецкія герб і сцяг, публіка бачыла за імі перш за ўсё танную каўбасу. Менавіта гэты прадукт, дакладней, беспаспяховае змаганне за танны каўбасны дастатак акрэслівала трываласць і ўстойлівасць савецкай сістэмы. Галасуючы на рэферэндуме за новую-старую сімволіку, многія спадзяваліся, што з вяртаннем савецкай атрыбутыкі іх жыццё нагбудзе страчаны сэнс. І, як паказала жыццё, яны мелі рацыю. Змаганне за каўбасу разыгралася з дзіўнай сілай і аказалася такім жа беспаспяховым, як і ў лепшыя савецкія гады. Таннай каўбасы няма, пакуль яшчэ ёсць дарагая, але раптам з'явілася мноства ворагаў, якія адбіраюць яе ў працоўных.

Традыцыйна, неяк непрыкметна харчовае пытанне зноў стала ідэалагічным і палітычным, а самыя прадукты паступова прападаюць. Таму ўсе спадзяванні, як і раней, звязаны ў некаторых з соткамі, у некаторых з дачамі. Слава Богу, у цудоўнай Беларусі выжыць дазваляе нават такое прымітыўнае земляробства. Але няма ніякіх прычын, каб расчульвацца над тым, што мільёны людзей у пошуках пракармлення амаль ўва круглы год корпаюцца ў зямлі. (...)

**Канстанцін Скуратовіч**
*„Свабода" № 56 (49), 13.05.1998 г.*

## Угодкі Максіма Багдановіча

Каля 400 маладых людзей у Мінску прыйшло 25 мая да помніка Максіму Багдановічу, каб ушанаваць памяць вялікага паэта Беларусі. Каля помніка маладыя людзі разгарнулі нацыянальныя бел-чырвона-белыя сцягі і ўсклалі кветкі. Пасля моладзь прачытала вершы паэта і праспявала вядомую „Пагоню" і мірна разышлася святкаваць угодкі па дамах.

У той жа дзень у мінскім касцёле св.св. Алены і Сымона прайшла памінальная імша, прысвечаная памяці паэта.

Угодкі Максіма Багдановіча маладыя людзі святкавалі па ўсёй краіне.

**Ян Абадоўскі**

## Дэкрэт нічога не зменіў

**Нядаўні прэзідэнцкі дэкрэт даў беларускім укладчыкам гарантыі на недатыкальнасць іхняй валюты на банкаўскіх рахунках. Цяпер людзі маюць магчымасць укладваць у банк любую суму грошай без дэклараванння. Але, як сведчаць спецыялісты банкаў, гэтыя „прывілеі" не прыцягнулі валюту. Чэргаў укладчыкаў перад банкамі няма.**

**Старое і новае**

Дэкрэт „Аб гарантыях захаванасці сродкаў фізічных асобаў у замежнай валюце, якія знаходзяцца на рахунках і ва ўкладах у банках Рэспублікі Беларусь" прымусіў шэраг банкаў змяніць умовы. Так, раней некаторыя банкі выплачвалі працэнты па валютных укладах рублямі, цяпер гэтую практыку даводзіцца адмяніць.

Дэкрэтам таксама прадугледжваецца, што банкі не павінны ўстанаўліваць мінімальны памер укладаў. Але на самой справе гэта не так. Завітаўшы ў некалькі аддзяленняў Беларусбанка, карэспандэнт „Навінаў" даведаўся, што там прымаюць сумы толькі ад 300 долараў, як і раней. Хутчэй за ўсё кіраўніцтва банка не паспела даць падначаленым неабходныя інструкцыі. Паранейшаму ўстанаўліваюць мінімальны памер валютных дэпазітаў і яшчэ некаторыя банкі.

**Патрэбна рэклама**

Вялікія банкі не маюць асаблівай патрэбы ў грашах насельніцтва, тым больш у невялікіх укладах на пару соцень долараў. Для атрымання неблагіх прыбыткаў ім дастаткова мець у абслугоўванні дзяржаўныя (бюджэтныя) грошы.

Як паведамілі карэспандэнту „Навінаў" спецыялісты некалькіх вялікіх банкаў, ніякага больш-менш значнага прытоку валюты пасля прыняцця дэкрэта аб гарантыях не адбылося. Прыйшла зусім невялікая колькасць кліентаў — з ліку тых, хто асабліва давярае дзяржаве. А такіх, каб давяралі ды яшчэ мелі грошы, вядома ж, мала.

Адмена дэкларавання ўкладаў таксама не дала асаблівага эфекту: дзякуючы гэтаму, па словах спецыялістаў, у банкі прыйшло некалькі дзесяткаў адносна буйных кліентаў. Але яны не маюць дачынення да ценявой эканомікі, дзе, паводле ацэнак дзяржаўных экспертаў, абарочваюцца мільярды долараў. Гэтыя новыя кліенты атрымалі грошы цалкам легальна — напрыклад, ад продажу кватэры, машыны і гэтак далей.

На думку банкаўскіх работнікаў, шмат хто з патэнцыйных укладчыкаў проста не ведае аб існаванні нейкага дэкрэта з гарантыямі. І таму, гаворыць супрацоўнікі буйных банкаў, калі дзяржаве так патрэбная валюта ў банках, то няхай яна лепш паклапоціцца аб рэкламнай кампаніі сваіх гарантыяў.

Што ж датычыць „неўпаўнаважаных" банкаў, дзе валютныя ўклады не атрымалі дзяржаўнай гарантыі, то яны амаль не пацярпелі ад свайго „сіротчага" статусу. Рэч у тым, што ў невялікіх і сярэдніх банках, якія актыўна займаюцца прыцягненнем валюты фізічных асобаў (напрыклад, Белбалтыя, Абсалютбанк, Мінсккомплексбанк і інш.), звычайна большыя працэнтныя стаўкі, акрамя таго, яны добра рэкламуюць сябе. А вышэйшы даход з'яўляецца для ўкладчыка лепшым аргументам, чым абстрактныя дзяржаўныя гарантыі.

**Рублі патаннеюць**

А вось сапраўдных зменаў у сектары валютных укладаў банкіры чакаюць з іншага боку. На мінулым тыдні Нацыянальны банк адмяніў так званыя мінімальныя працэнтныя стаўкі па рублёвых дэпазітах. Яны складалі 38% і 46% гадавых у залежнасці ад тэрміну, але некаторыя банкі прапаноўвалі і больш высокія працэнты — да 50%.

Цяпер, калі мінімальныя стаўкі адменены, можна чакаць скарачэння працэнтаў па рублёвых укладах — спецыялісты прагназуюць узровень 34-36% гадавых. А адсюль лагічна вынікае: публіка тым больш будзе старацца трымаць свае зберажэнні ў валюце.

**Алесь Садоўскі**
*„Свабода" № 56 (49), 13.05.1998 г.*

# Мы прачыталі

*Szkoła polska jest autorytarna. Demokracja wymaga stosunków partnerskich, krytycyzmu, sceptycyzmu, inicjatywy i kreatywności. Autorytaryzm wymaga podporządkowania się inicjatywom idącym z góry, posłuszeństwa. Szkoła autorytarna nie dopuszcza różnicy poglądów, nie daje prawa do krytycyzmu względem tego co mówi podręcznik i nauczyciel, odmawia prawa do krytycyzmu. Do takiej szkoły przez minione półwiecze kształcono polskich nauczycieli. Obecnie również ta sama kadra kształci młodych nauczycieli, stwarza to zagrożenie dla demokracji. Dlatego pompowanie pieniędzy w oświatę bez zmiany systemu kształcenia nauczycieli jest dokładnie tym samym, co pompowanie pieniędzy w Ursusa. Nikt jednak nie chce tego stanu zmienić: ani nauczyciele, ani dyrektorzy szkół, ani ogromna masa urzędników w administracji oświatowej, ani potężne związki zawodowe. To są ludzie którzy powiedzenie prawdy na temat kształcenia nauczycieli odbierają jako podważanie ich kwalifikacji, kompetencji zawodowych, prestiżu.*

*Polityka, nr 22*

* * *

*Służba zdrowia marnuje publiczne pieniądze. W oddziałach dziecięcych, położniczych, zakaźnych wykorzystanych jest tylko 50 procent łóżek. Droga, kupiona za dewizy aparatura wykorzystuje się w dramatycznie niskim stopniu. Okazuje się, że aparat do badania echa serca potrafi być wykorzystany w 20 proc. A chorzy czekają w kolejce na to badanie trzy miesiące. Deficytowe urządzenia jak tomografy komputerowe pracują średnio tylko dwa dni w tygodniu, powinny pracować siedem. Od 1992 roku dopłaty do leków wzrosły aż 5-krotnie, chociaż konsumpcja leków wzrosła tylko o 31 proc. Dzieje się tak dlatego, że lekarze wypisują droższe leki zagraniczne. W ten sposób budżet państwa dotuje zagranicznych producentów. Powszechny udział pacjentów w nieoficjalnym finansowaniu leczenia powoduje, że szara strefa szybko rośnie, a faktyczne wydatki na służbę zdrowia są o 40 procent wyższe niż od tych zapisanych w budżecie.*

*Gazeta Wyborcza, nr 124*

* * *

*Podróżowanie dzisiaj autem po polskich drogach wymaga braku wyobraźni, sporej dawki masochizmu z domieszką odruchu samobójczego. Ruch zgęstniał, a drogi wprost przeciwnie, jakoś się zwęziły. Nowe samochody prowadzą nowi kierowcy, do niedawna korzystający z maluchów lub autobusów. Ich ambicje są wprost proporcjonalne do mocy silnika i odwrotnie do umiejętności.*

*Kurier Poranny, nr 125*

* * *

*Створана ў Беларусі сістэма кіравання з'яўляецца тыповай дыктатурай. Імкнучыся сцэментаваць яе нейкай ідэалогіяй, Лукашэнка кідаецца то ў „праваслаўны атэізм", то ў славянафільства, то да прыкладу гітлераўскай Германіі. Кожны з гэтых фрагментаў яго сінкрэтычнай ідэалогіі абсалютна бесперспектыўны, бо аддае затухлым пахам даўно адкінутых гісторыяй ідэяў. Гэтая мешаніна ідэалаў з'яўляецца проста ашмоткамі ідэалогіі манархісцкай Расіі. якая мела гістарычную мэту стварэння адзінай сусветнай праваслаўнай імперыі на базе расійскага этнасу, расійскай культуры. Але тое, што падыходзіла для вялікай Расіі, дрэнна стасуецца з магчымасцямі малой Беларусі. Гэтым і тлумачыцца асаблівая любоў да Лукашэнкі і ягонай інтэграцыйнай палітыкі з боку так званых „народна-патрыятычных сілаў Расіі". Але ёсць у Маскве ўплывовыя сілы, якія разумеюць небяспечнасць такой палітыкі. Бо яна прывядзе да адраджэння халоднай вайны, гонкі ўзбраенняў, ізаляцыі. Разумеюць, што ў Расіі на гэта не хопіць рэсурсаў. Доўгае камуністычнае кіраванне прывяло гэту краіну ў рады „трэцяга свету".*

*Свабода, н-р 53*

* * *

*Інтэграцыя з Расіяй не паўплывае на суверэнітэт Беларусі, — заявіў міністр замежных спраў Іван Антановіч.*

*Звязда, н-р 107*

* * *

*Сацыялізм ёсць сацыялізм, якім бы „рынкавым" ён не быў. Як у савецкія часы, цяпер у мінскіх гастраномах няма нават выбару піва. Засталося толькі „Жыгулёўскае", ды і тое не паўсюдна. Ну, і яшчэ нейкі „Хакей". Гэта так, як бы назваць гарэлку „Фізкультура і спорт", ці цыгарэты „Здароўе". У савецкі час, калі хто забыўся, у крамах таксама прадаваліся два гатункі піва: тое ж „Жыгулёўскае" і яшчэ „Ячменны колас". Піва гэта толькі індыкатар агульнага стану. Аднак прадуктаў у крамах зусім няма, другія трэба доўга шукаць і выстойваць чэргі, на трэція ўводзяцца нормы продажу. Цяперашнія беларускія ўлады бяруць узорам „узровень савецкіх часоў па асноўных параметрах эканомікі", якога яны намагаюцца дасягнуць. Калі яны нам кажуць, што эканамічная сітуацыя стабілізуецца — дык на ўласныя вочы бачым, што гэта слушна хіба толькі ў тым, што краіна стабільна коціцца ўніз.*

*Свабода, н-р 51*

У 1989 годзе эканамічная сітуацыя ў Беларусі была такая ж як Славеніі. Сёння сярэдні заробак у Беларусі — 70 долараў, у Славеніі — 1 000 долараў. Славенцы вырашылі будаваць капіталізм, беларусы выбралі „рыначны сацыялізм" і вяртанне ў „лепшае мінулае".

# Ашчаднасць за кошт спорту

**У Пачатковай школе ў Орлі 30 мая г.г. дзеці напярэдадні свайго свята адзначылі Дзень спорту. І хаця стаяла добрае надвор'е, школьнікі аддалі перавагу заняткам у новай спартыўнай зале. Вучні IV-VIII класаў некалькі гадзін гулялі ў гандбол і футбол, спаборнічалі ў бегах і працягванні каната. Юных спартсменаў да змаганняў заахвочвалі сабраныя на абшырным балконе балельшчыкі.**



*Хлопцы любяць пагуляць у футбол.*

Карыстаючыся святочнай нагодай папрасіў я настаўніка фізкультуры **Славаміра САХАРЭВІЧА** расказаць пра будні спартыўнага жыцця арлянскай школы, тым больш, што цяпер побач школы будуецца вялікая спартыўная пляцоўка, а мой суразмоўца, які садзейнічае пабудове, з'яўляецца яшчэ радным Гміннай рады і дэлегатам Самаўрадавага сейміка Беластоцкага ваяводства.

— Спартыўную пляцоўку будуем самі, а гміна дала нам толькі грэйдэр. Школа купіла парэбрыкі, а настаўнікі фізкультуры і бацькі паклалі іх вакол пляцоўкі. Фізкультурнікі (я і Юры Грыгарук) разам з дзецьмі добраўпарадкавалі астатнія спартыўныя аб'екты, а школьны стораж пасеяў траву. Будуць у нас пляцоўкі для гандбола, валейбола, баскетбола, бегавая дарожка даўжынёю у 200 м, дарожка для скачкоў у даўжыню. Умовы для спартыўных заняткаў у нас добрыя, але ўрокаў фізкультуры ў нас мала — толькі тры гадзіны ў тыдзень. А вынікі гэтага відавочныя: многія дзеці пакутуюць ад бакавога скрыўлення пазваночніка ці заган дыхальнага апарату.

***— Ваш пакойны бацька таксама працаваў у Орлі настаўнікам фізкультуры і пад яго кірункам моладзь дабівалася поспехаў нават на ўсяпольскай арэне. А ці ёсць у вас чым пахваліцца?***

— У 1985 годзе, калі вяліся яшчэ дадатковыя заняткі ў рамках СКС (школьных спартыўных гурткоў), заваявалі мы ў Лапах трэцяе месца ў эстафеце 10 х 1 км. Спаборнічалі тады каманды аж дванаццаці ваяводстваў. А ў красавіку гэтага года шасцікласнікі Міхал Багацэвіч і Лукаш Анапюк апынуліся на шостым месцы ў ваяводскіх спаборніцтвах па настольным тэнісе. У Беластоку сказалі нам, што гэта поспех „не з гэтай зямлі", беручы пад увагу велічыню нашай школы (толькі дзвесце дзетак). Прымалі мы ўдзел у спаборніцтвах па гандболе ў Сямятычах, Браньску і Беластоку і выйгрывалі матчы. Можна было б прымаць удзел у спаборніцтвах па баскетболе, але няма як падрыхтаваць вучняў, бо колькасць заняткаў зусім малая.

***— Якія віды спорту любяць вашы выхаванцы?***

— Дзеці перавагу аддаюць лёгкай атлетыцы, баскетболу і асабліва гандболу. Бацькі таксама прыхільна ставяцца да фізічнай культуры і ахвотна пасылаюць дзяцей на заняткі і спаборніцтвы. Многія дзеці хацелі б хадзіць на дадатковыя заняткі ў рамках спартыўных гурткоў, але войт гміны не прызначыў на гэта адпаведнай колькасці грошай...

***— У чым заключаецца праблема? Чаму гмінны самаўрад не адводзіць належнай увагі фізічнай культуры ў школе?***

— Дзеці хочуць займацца спортам і мы, настаўнікі, бачым гэтую патрэбу. Аднак цяпер, калі маем урокі тры разы ў тыдзень, то у аб'яднаных класах VII-VIII (з хлопцамі займаюся я, а з дзяўчатамі — Юры Грыгарук) на зале адразу збіраецца 50 чалавек. Я прапанаваў раздзяліць гэтыя класы, каб не весці заняткаў на калідоры. Аднак гміна спалучае класы і такім чынам змяншае колькасць урокаў ды эканоміць грошы. Таксама справа маецца з гуртком СКС. У мінулым годзе ў класах VII-VIII былі ўведзены дадатковыя заняткі — па адной гадзіне на настаўніка. Каб правесці заняткі з карысцю, адна група павінна займацца дзве гадзіны запар. У гэтым годзе другую гадзіну СКСу, калі была такая магчымасць, я вёў на грамадскіх пачатках. У іншых школах, напрыклад у Бельску, настаўнікі маюць па дзве і тры гадзіны СКСу. Пісалі мы заяву дырэкцыі школы ў справе СКСу для малодшых класаў, але войт адмовіўся фінансаваць дадатковыя заняткі па фізкультуры. Гмінныя ўлады не цікавяцца фізкультурай у школе, не пакарысталіся маім запрашэннем пабачыць умовы, у якіх яны адбываюцца. А калі я справы школьнага спорту ўзнімаю на сесіях Гміннай рады, войт і сакратар гміны толькі ўсміхаюцца.

* * *

Аказваецца, гмінныя самаўрадавыя ўлады справу здароўя маладога пакалення лічаць малаістотнай, а прыгожая спартыўная зала не выкарыстоўваецца поўнасцю з-за фінансавых абмежаванняў мясцовай адміністрацыі. А калі запытаў я ў школе разбеганых дзяцей, што яны хацелі б атрымаць у падарку з нагоды Дня спорту і Дня дзіцяці, яны згодна выгукнулі: **Больш урокаў фізкультуры і СКСу!** Можа новы самаўрад зразумее гэта. Трэба быць аптымістам, бо гэта дадае энергіі.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# XIX Дні Бельска-Падляшскага

**Ад 30 мая да 7 чэрвеня ў Бельску-Падляшскім адбываліся забаўляльныя мерапрыемствы, канцэрты і сустрэчы ў рамках XIX Дзён Бельска-Падляшскага.**

У нядзелю 31 мая бурмістр Андрэй Сцепанюк у прысутнасці намесніка беластоцкага ваяводы Юзэфа Кліма, дырэктара Бельскага дома культуры (галоўнага арганізатара мерапрыемства) Сяргея Лукашука, бельскіх прадпрымальнікаў прывітаў бяльшчан, афіцыйна адкрываючы святкаванні. На пікніку ў гарадскім амфітэатры можна было паглядзець балетныя танцы, змаганні гайнаўскіх дзюдаістаў з клуба „Пушча" і паслухаць разнародную музыку, пачынаючы ад беластоцкіх „Прымакоў", а канчаючы на „Мі тера" з Кубы. Добрае надвор'е і каўбаскі з піўцом яшчэ дадаткова прыцягвалі жыхароў у гарадскі парк, дзе пракацілася, як паведамлялі арганізатары, некалькі тысяч людзей.

У панядзелак, у сувязі з Дзіцячым днём, усе мерапрыемствы накіраваны былі ў бок наймалодшых. У мастацкіх і музычных конкурсах у Бельскім доме культуры і спартыўных спаборніцтвах на стадыёне прымалі ўдзел вучні ўсіх падставовых і сярэдніх школ горада.

У сераду ў Гарадской ратушы адбылася сустрэча бурмістра Андрэя Сцепанюка з творцамі бельскай культуры. Словы падзякі накіраваў ён да мастакоў, калектываў песні („Маланка", „Васілёчкі"), школ і гарадскіх культурна-асветных устаноў (Бельскі дом культуры, Гарадская бібліятэка, Музей). Звярнуў таксама ўвагу на адзіную ў Польшчы Іканапісную школу, якой кіраўнік, айцец Лявонцій Тафілюк, прысутнічаў на спатканні. У Бельскай ратушы можна было паглядзець выстаўку мастацкага рамяства і фатаграфій, звязаных з усходняй Беласточчынай. Побач здымкаў старых бельскіх хат былі і крыжы з Грабаркі, і бераг Буга, і прыпушчанскія краявіды. Алег Кабзар і Дарафей Фіёнік пазнаёмілі прысутных з новай кніжкай, звязанай з Бельскам-Падляшскім — „Надзея Артымовіч — паэзія, Ежы Плютовіч — паэзія, Алег Кабзар — жывапіс".

— Беларускую паэзію Надзеі Артымовіч і польскія вершы Ежы Плютовіча спалучае тэма Бельска, — гаварыў Дарафей Фіёнік. — Усё гэта папаўняюць рэпрадукцыі карцін Алега Кабзара.

Усе іншыя мерапрыемствы ажно да нядзелі накіраваны былі, у галоўным, да моладзі і дзяцей. Канцэрты, танцы, дэкламацыі перапляталіся з турнірамі. Некаторыя сустрэчы арганізавала і вяла сама моладзь. Беларускія вершы ў чацвер дэкламавалі вучні белліцэя, а з беларускімі песнямі выступілі ліцэісткі з „Дзявочых нотак". Дні Бельска-Падляшскага завяршыліся ў нядзелю 7 чэрвеня турнірам танца, сустрэчай з Радыё Беласток і шахматным турнірам. У развітальным канцэрце можна было паслухаць беларускія песні ў выкананні бельскіх калектываў „Журавінка", „Дзявочыя ноткі", „Васілёчкі" і „Маланка".

— Чарговы раз можна сказаць, што такія Дні ў Бельску-Падляшскім патрэбныя. Некалькі тысяч людзей, якія прыходзілі на канцэрты і іншыя мерапрыемствы толькі пацвердзілі, што зацікаўленне імі жыхароў вялікае, — гаварыў бурмістр Андрэй Сцепанюк. — Іншая справа, гэта прапагандаванне горада і гарадскіх прадпрыемстваў звонку. Лічу, што кожны мог знайсці тое, што яго цікавіць.

**Аляксей Мароз**

# Экалагічная вандроўка

Пад канец траўня ў Грыфіне адбылася III Агульнапольская экалагічная вандроўка, мэтай якой было пазнаёміць моладзь з цэлай Польшчы з прыгажосцю Шчэцінскай зямлі. Апрача вандровак адбываліся яшчэ конкурсы турыстычна-экалагічнай песні, турнір ведаў аб экалогіі ці агляд экалагічнага плаката. У гэтым годзе ў вандроўцы прымала ўдзел 13 каманд з розных школ Польшчы, у тым ліку і вучні белліцэя з Гайнаўкі. Гэта быў ужо трэці турыстычны паход гайнаўскіх ліцэістаў па Заходняй Памераніі. Групу склала 9 чалавек (Ігар Іванюк, Іаанна Масайла, Альжбета Рослань, Аня Васілюк, Аня Трашчотка, Караль Вакулюк, Іаланта Корзун, Тамаш Кердалевіч), у тым ліку настаўнік Яўген Янчук. Белліцэісты паказаліся з лепшага боку, і ва ўсіх турнірах, у якіх прыйшлося ім прыняць удзел, займалі перадавыя месцы. У выніку гайнаўская група заняла першае месца ў агульнапольскай класіфікацыі.

**Славамір Кулік**

# Савецкі drink

[1 ☞ працяг]

«сіняга каньяку» смуроду?" — спытаўся я. „Гэта таксама не праблема, — адказаў гандляр. — Некалькі разоў трэба псікнуць аэразолем, які называецца «мухазоль» і смурод знікае. Сам, дарэчы, бачыш, што тавар першакласны. Пасля астаецца разліць толькі ў адпаведныя бутлі, закруціць арыгінальныя закруткі, а людзі ахвотна купляюць таму, што ў два разы таннейшы чым у краме. Дарэчы, у вас у крамах таксама шмат нашай прадукцыі. З палякамі можна дагаварыцца".

Мой суразмоўца працуе механізатарам у калгасе. Як сам кажа, жывецца яму зусім нядрэнна. Час ад часу, аднак, з сябрамі з Ваўкавыска прыязджаюць на сваіх аўтамабілях у Польшчу пагандляваць польскім спіртам. За два-тры дні ўдаецца яму зарабіць столькі, што ў калгасе за месяц. „Апошнім часам, — сказаў мой госць, — палякі больш ахвотна купляюць заходнія гарэлкі. Але і з гэтым няма праблемы. Адпаведныя бутлі, закруткі, наклейкі можна набыць і ў Польшчы, і ў Беларусі, а пажаданы тавар заўсёды можна знайсці ў неабмежаванай колькасці" — аптымістычна глядзіць у будучыню механізатар з Беларусі.

**Васіль Кургановіч**

# У супольную будучыню

**Пад такім лозунгам ад 29 мая да 2 чэрвеня г.г. у Гайнаўцы і Белавежы адбывалася Міжнародная канферэнцыя, прысвечаная беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы.**

Галоўным арганізатарам канферэнцыі было Таварыства супрацоўніцтва народаў Усходняй Еўропы „Прыбліжэнне”, якое з 1990 года дзейнічае ў Варшаве і арганізуе між іншым семінары, прысвечаныя ўсходнееўрапейскім народам.

— Галоўнай мэтай нашай канферэнцыі з'яўляецца прыбліжэнне розным асяроддзям у Польшчы і за нашай усходняй мяжой праблем беларускай нацыянальнай меншасці, — гаварыў Веслаў Кэнцік, які разам з жонкай Мажэнай, старшынёю Таварыства „Прыбліжэнне” былі галоўнымі арганізатарамі. — Хочам таксама пазнаёміць беларусаў з канкрэтнымі прыкладамі вырашэння нацыянальных канфліктаў на мяжы Даніі і Нямеччыны, у Цыролі (Італія) і Самаліі.

Сустрэчы і дыскусіі адбываліся ў магістраце горада Гайнаўка, ІІ Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання і белавежскім гатэлі „Іва” ды запаведніку Белавежскай пушчы. У семінарах прымалі ўдзел прадстаўнікі польскіх арганізацый, якія супрацоўнічаюць з усходнееўрапейскімі краінамі, госці са Швецыі, Даніі, Нямеччыны, Украіны, прадстаўнікі польскіх арганізацый з Беларусі, Беларускага пасольства ў Варшаве, консульства РБ у Беластоку, улад Гародні, кіраўніцтва БГКТ ды жыхары Гайнаўкі, якіх зацікавіла аб'ява, што ў іх горадзе адбываецца міжнародная канферэнцыя.

Бурмістр Гайнаўкі Ядвіга Рудзінская-Патэюк пазнаёміла прысутных з сумнай рэчаіснасцю Гайнаўшчыны — у 9 гмінах, якія ўваходзяць у Саюз прыпушчанскіх гмін (56 тыс. жыхароў), грамадства старэе, а многа зямлі ляжыць аблогам, многа абсаджваецца лесам. Гаспадарам не хапае фінансаў на хімікаты і ўгнаенні. Паколькі зямля не дае дастатковых сродкаў на ўтрыманне, маладыя з Гайнаўшчыны ўцякаюць. Толькі турызм і агратурызм могуць адмяніць адмоўныя тэндэнцыі ў прыпушчанскіх вёсках, але патрэбны адукацыя грамадства і адпаведныя сродкі, — сказала бурмістр.

Зачытаны быў даклад кіраўніка Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта прафесара Аляксандра Баршчэўскага, у якім ён крытыкаваў між іншым улады колішніх Савецкага Саюза і Народнай Польшчы за абыякавыя адносіны да беларусаў. Інфармаваў, што ў гамулкаўскія і геркаўскія часы справы БГКТ у большай ступені вырашаліся ў Ваяводскім камітэце ПАРП, чым у Галоўным праўленні Таварыства. У дакладзе гаварылася пра адмоўныя бакі і паслядоўнасці травеньскага рэферэндуму 1995 года ў Беларусі (ліквідацыя нацыянальных сімвалаў, спыненне адраджэння беларускасці), якія мелі непасрэдны ўплыў на нізкі духовы камфорт беларусаў, што пражываюць у Польшчы. Даклад галоўнага рэдактара Беларускай рэдакцыі V Праграмы Польскага радыё доктар Ніны Баршчэўскай тычыўся пісем, якія ў рэдакцыю дасылаюць слухачы з Беларусі. Гаварылася там, між іншым, аб адраджэнні беларускасці ў пачатку 90-х гадоў і ліквідацыі беларускай мовы ў школах, прэсе, установах пасля 1995 года. Былі і пахвальныя пісьмы ў бок беларускамоўнай праграмы. Удзельнікі канферэнцыі выслалі пажаданні хуткага вяртання да здароўя прафесару Аляксандру Баршчэўскаму, які пасля апераныі знаходзіўся ў бальніцы. Пасол Ян Сычэўскі расказаў пра БГКТ і хваліў улады Беларусі за дапамогу. Прадстаўнік Гародні Уладзімір Амелька і саветнік Беларускага пасольства ў Варшаве Уладзімір Каральчук абвяргалі па чарзе інфармацыі зачытаныя ў дакладах спадарства Баршчэўскіх, крытыкуючы прытым польскую прэсу і ўсхвальваючы развіццё беларускай мовы і гаспадарчы росквіт Беларусі. Уладзімір Амелька, гаворачы пра развіццё сельскай гаспадаркі інфармаваў, што недзе праз год-два краіна дасягне паказчыкаў Галандыі ці Бельгіі.

Удзельнікі з заходніх краін расказалі пра праблемы іхніх нацыянальных меншасцей. Прысутныя выслухалі даклад аб Шлезвігу, які ў мінулым належаў або Даніі, або Нямеччыне. Нацыянальную варожасць пачало ліквідаваць там некалькі асоб, якія запрашалі на канферэнцыі прадстаўнікоў улад абедзвюх краін, што дало станоўчыя рэзультаты. Спадар Веслаў Кенцік расказаў пра Швецыю, у якой пражыў 6 гадоў, і яе нацыянальныя меншасці, якія састаўляюць там 1 мільён жыхароў (на 7 мільёнаў шведаў). Кожны прадстаўнік іншай нацыі мае там гарантаваную індывідуальную вучобу на роднай мове (дзеці дома, на месцы). Вялікую колькасць эмігрантаў з Еўропы састаўляюць там адукаваныя людзі, на якіх вучобу не трэба было выдаткоўваць грошай у Швецыі.

Гутарка ішла таксама пра канфлікты ў Паўднёвым Цыролі на аўстрыйска-італьянскай мяжы і ў Самаліі, якія ліквідаваны былі паасобнымі людзьмі.

Удзельнікі канферэнцыі пабывалі таксама на гала-канцэрце XVII Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі, наведалі Беларускі музей у Гайнаўцы (здзівілі іх кітайскі бар, шыльды левай партыі, бюро пасла і іншых прадпрыемстваў), з'ездзілі на Грабарку, у Белавежскі запаведнік. У Гайнаўскім белліцэі паслухалі беларускай музыкі ў выкананні школьнага калектыву, дэкламацыі вершаў ды паразмаўлялі з вучнямі. Ліцэістаў цікавіла жыццё ў Беларусі, аднак найбольшае здзіўленне ўдзельнікаў выклікаў адказ, што на Гродзеншчыне няма ніводнай сярэдняй школы, у якой усе прадметы навучаліся б на беларускай мове.

Спадарства Кэнцікі інфармавалі, што ў Гайнаўку не даехала многа запрошаных гасцей, між іншым доктар Вітаўт Кіпель, дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва з Нью-Йорка, госці з Менска і прадстаўнікі міністэрстваў культуры і мастацтва, унутраных і замежных спраў.

Падсумоўваючы канферэнцыю арганізатары звярнулі ўвагу, што яе вынікам будуць намаганні розных арганізацый супраць спынення пасажырскага чыгуначнага транспарту на Гайнаўшчыне, садзейнне выезду моладзі ў Швецыю, а таксама ўдзел вучняў белліцэя ў сустрэчах арганізаваных у Беларусі і Польшчы.

**Аляксей Мароз**

# „Наша ніва” і ўсходняя Беласточчына

**Частка 18**

Пад канец 1908 года колькасць інфармацыяў аб усходняй Беласточчы на старонках „Нашай нівы”не выразна паменшылася. Аднак у апошнім, 26 нумары тыднёвіка паявіліся два,цікавыя артыкулы, з якіх адзін адносіўся да вёскі Шчыты, а другі да самога Беластока.

Аўтар, які пакарыстаўся псеўданімам Знаёмы, даў вельмі прыхільную характарыстыку паставы сялян з вёскі Шчыты, якія дзейсна падтрымалі бібліятэку ў сваёй вёсцы.

Паслухайма Знаёмага:

„Сяло Шчыты, Гродзенскай губерні, Бельскага павета. Кажуць, што мужыкі — народ цёмны, што яны робяць адзін другому шкоду. Такія людзі ёсць і ў нашым сяле, ад іх грамадзе мала карысці. Але ёсць у нас мужыкі, што хочуць, каб свет навукі і знання асвяціў нашу беларускую вёску. Яны памагаюць чым могуць нашай бібліятэцы: Паўлоўскі, Малеш Амельян, Міхальчук Федос, Семянюк Сьцяпан, Халіманюк Аляксей, Пулаўскі Янка, Раманюк Базыль, Голенка Язэп. Калісь дзеці іх і ўнукі памянуць добрым словам сваіх бацькоў, хоць і мала вучоных, але шчырых працаўнікоў на карысць народу.

У сяле мужыкі хочуць зрабіць хаўрусную краму і банчок”.

Як ужо ведаем з папярэдніх інфармацыяў, у большасці выпадкаў аб беларускіх сялянах з усходняй Беласточчыны гаварылася адмоўна. У даным выпадку маем дачыненне з зусім іншым тыпам весткі, у якой аб беларусах гаворыцца рашуча пазітыўна.

Другая карэспандэнцыя, падпісаная псеўданімам Працаўнік, не адносілася непасрэдна да вясковага жыцця і датычыла паводзін беластоцкіх рабочых, сярод якіх напэўна былі таксама беларусы. Інтанацыя гэтай карэспандэнцыі рашуча адрозніваецца ад папярэдняй. Аўтар асуджае ў ёй дзеянні беластоцкіх рабочых, ставячы ім істотныя закіды.

„Беласток, Гродзенскай губерні. У фабрыцы сукна Фляцкера (у Высокім Сточку) працуе 178 чалавек, у тым ліку 66 кабет і 112 мужчын. Год-два таму назад усе нашы работнікі, як бы збудзіўшыся ад доўгага сну, кінуліся к свету навукі, знання, сталі чытаць шмат кніжак, куплялі газэты, дый у іх гутарках можна было пачуць што добрае. Але цяпер дык глядзіш на іх, і пазнаць трудна, што гэта тыя самыя людзі, якія раней былі: цемната ізноў густым туманам заслала ім вочы. Прыйдзе снеданне ці абед, дык збіраюцца ў кучы, граюць у карты, або пойдуць да кабет і розныя глупствы гавораць, ажно кабеты ўцякаць мусяць. А як дастануць грошы за работу, дык на кожным кроку спатыкаеш цэлыя грамады п'яных, нават і спяць пры дарозе.

Дый работнікі ўжо не жывуць так дружна, як калісь. З гэтага выходзіць, што і аб паляпшэнні долі сваёй кінулі думаць. Праз гарэлку перасталі яны шанаваць у кожным чалавека і грамадзяніна, нягледзячы якой хто рэлігіі і нацыі, а ўсе — рускі, паляк, жыд — ідуць кожны асобна.

Кіньце, людзі, гарэлку ды карты, кіньце распусту, бо іначай ніколі не выйдзеце з цемнаты, не пазнаеце дарогі к сьвятлейшай долі! Няхай усе, хто яшчэ не затуманіў розуму праклятай атрутай, усімі сіламі стараюцца адцягнуць ад злога братоў сваіх, няхай не глядзяць на іх насмешкі, лаянкі і здзек: трэба памятаць, што тут ідзе справа аб долю ўсіх працаўнікоў”.

Мабыць, не мала з апісаных аўтарам „Нашай нівы” балючых з'яў дайшло, на жаль, да нашых дзён.

Вышэйпрыведзенай карэспандэнцыяй заканчваюцца весткі аб Беласточчыне на старонках „Нашай нівы” за 1908 год.

**Алесь Барскі**

# Нашы карані

**CXX. Ацвераджэнне**

У часы падзелаў Рэчы Паспалітай Праваслаўная Царква і яе вызнаўцы апынуліся ў надзвычай клапатлівым становішчы. Без аніякай падставы абвінавачвалі іх, што яны — гэта галоўная прычына ўсіх няшчасцяў Рэчы Паспалітай. Праваслаўным прыпісвалі здраду дзяржавы, хаця на тое не было ніякіх доказаў ды іх і не дапускалі да ніякіх дзяржаўных ці іншых пасадаў, таму нават калі б і хацелі, то не мелі чаго здрадзіць. Супраць праваслаўных настаўляла уніяцкая іерархія ўсіх: караля, магнатаў, шляхту, нават простых людзей. А ўсё дзеля таго, каб выкараніць праваслаўе і прытым захапіць сабе царкоўную маёмасць. Гэтак толькі за пяць гадоў, з 1771 па 1776, уніяты захапілі каля 1 000 праваслаўных цэркваў з усім прыналежным да іх: рухомай і нерухомай маёмасцю (зямлёю, сенажацямі, лесам, гаспадарчымі будынкамі), а праваслаўных веруючых усялякімі спосабамі заганялі ва уніяцкія касцёлы. Таму то ў 1789 годзе ў Рэчы Паспалітай было 4 682 уніяцкія касцёлы і ўсяго 329 праваслаўных цэркваў. Напрыклад, у 1791 годзе ў Драгічыне-на-Бугу былі дзве парафіі: Свята-Троіцкая са 116 прахаджанамі і Свята-Праабражэнская з 64 прыхаджанамі. Не захаваліся даныя пра колькасць прыхаджан манастырскіх цэркваў у Бельску і Заблудаве ці Яблачыне, але з усяго відаць, што было іх не болей як у Драгічыне. На жаль, такое трагічнае становішча праваслаўных было на ўсіх беларускіх і ўкраінскіх землях, якія прыналежылі Рэчы Паспалітай. Таму ў тыя часы быць праваслаўным азначала быць героем, падзвіжнікам, гатовым у кожную хвіліну на пакуты, а нават на смерць. Ведаў пра тое ўвесь тадышні праваслаўны свет і, як толькі здолеў, дапамагаў сваім братам: дыпламатычнымі націскамі на польскі ўрад, зборам грошай, богаслужэбнымі кнігамі, апекай над уцекачамі з Рэчы Паспалітай.

З прычыны праследаванняў праваслаўных у Рэчы Паспалітай узмацняўся канфлікт з Расейскай імперыяй, якая лічыла сваім абавязкам абараняць адзінаверцаў. Нарастала вялікая пагроза для існавання Рэчы Паспалітай. Урэшце 19 сакавіка 1790 года на пасяджэнні Вялікага сейма разглядаўся праект аўтакефаліі Праваслаўнай Царквы ў Рэчы Паспалітай. Паводле яго планавалася, што кафедра праваслаўнага архіепіскапа будзе знаходзіцца ў Бельску-Падляшскім. Але гэты праект аказаўся вельмі спозненай спробай крыху змякчыць двухсотгадовыя праследаванні праваслаўных. Але, як вядома, у 1792 годзе наступіў другі, а ў 1795 годзе трэці падзел Рэчы Паспалітай. Гэтак гісторыя адзначыла двухсотгоддзе Брэсцкай уніі. Ацверазелі, праўда, тадышнія польскія палітыкі, уніяцкая і каталіцкая іерархія, але запозна, бо на хвіліну перад смерцю Айчыны.

**Мікола Гайдук**

# Шчаслівай дарогі!




Прамаўляе дырэктар Зінаіда Навіцкая.

Развітанне з абітурыентамі Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Б. Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім адбылося 5 чэрвеня 1998 г.

Ужо 30 мая стала вядомым, што 117 выпускнікоў справіліся паспяхова не толькі з пісьмовымі, але і з вуснымі экзаменамі. Станоўчыя рэзультаты былі і ў асобы, якая вучобу ў белліцэі закончыла дзесяць гадоў таму.

— Сярэдняя ацэнак па пісьмовых экзаменах — 3,7, а ўзровень прац па польскай і беларускай мовах быў падобны (у сярэднім беларуская мова — 3,9, польская мова — 3,7), што лічу нармальнай з'явай, бо і характар прац падобны (6 шасцёрак і 21 пяцёрка па беларускай мове і 26 пяцёрак па польскай мове), — гаварыла дырэктар белліцэя Зінаіда Навіцкая. — На вусных экзаменах рэзультаты крыху лепшыя (беларуская мова — 4,2, польская мова — 3,9). Трэба сказаць, што вучні адказвалі добра. А на ўвагу заслугоўвае тое, што і слабыя вучні ўмелі знайсці сябе адказваючы на складаныя пытанні. Атэстат сталасці з вылучэннем атрымалі 14 ліцэістаў (сярэдняя за вучобу вышэй 4,75 і сярэдняя ацэнак на атэстаце сталасці вышэй 4,6 — А. М.). Найлепш з матуральнымі экзаменамі справіліся вучні класа IV „б" (сярэдняя 4,3) і IV „д" (4,1). Найлепшымі вучнямі сталі: Міхал Шымчук (сярэдняя за вучобу — 5,3; за атэстат сталасці — 5,6); фіналіст алімпіяда па геаграфіі і рускай мове), Аня Евец (вуч. — 5,1; экз. — 5,4; фіналістка алімпіяды па біялогіі) і Юліта Баршчэўская (вуч. — 5,2; экз. — 5,1; фіналістка алімпіяды па рускай мове).

— Няхай матэматычныя падлікі, якія зрабіла спадарыня дырэктар, сведчаць толькі, што праца вучняў апраўдалася, — сказаў айцец Георгій Такарэўскі. — Хацелася б, каб усе выпускнікі сталі студэнтамі.

— Хаця ў час вучобы сустракаліся мы з рознымі неспадзеўкамі як з боку вучняў, так і настаўнікаў, дык школьныя гады будзем памятаць назаўсёды, — выказаўся прадстаўнік выпускнікоў Міхась Шымчук.

Пасля былі словы падзякі для сваіх выхавацеляў, настаўнікаў і іншых працаўнікоў школы. Кветкі і падарункі былі дапаўненнем пажаданняў. Традыцыйна ўжо з найстарэйшымі развіталіся трэцякласнікі. Не абышлося таксама без артыстычнай часткі. Зараз засталося ўжо мала часу да ўступных экзаменаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы. 16 ліцэістаў рашыліся на вучобу ў Рэспубліцы Беларусь. Сярод астатніх найбольш ахвотных паступіць на эканомію, юрыдычны факультэт і філалагічныя прамкі. Ёсць таксама намераныя вучыцца ў політэхнічным і медыцынскім інстытутах.

**Аляксей Мароз**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*



Выпускнікі з атэстатамі сталасці і кветкамі ад малодшых сяброў.

**Міхась Андрасюк**

# Крах

— 3 —

*(заканчэнне)*

Тайныя спружыны ў маім упарадкаваным нутры азваліся ў суботні поўдзень. Рэня сышла, не ведаю нат калі, пакідаючы па сабе цьмяны арамат заморскіх духоў. Я глядзеў у злашчасны рахунак, множыў, дзяліў і дадаваў малазразумелыя лічбы, усё-такі сума атрымоўвалася сумная: чвэрць месячнай зарплаты пайшло ў бліжэй неакрэсленым напрамку.

Не дурны сказаў, што жанчыны каштуюць. Дурны той, які гэта правярае ў кавярні „Цюльпан".

Мінорны мой настрой працягваўся б хіба ў бясконцасць, калі б не пазваніў інжынер Стручук. — Ёсць, — сказаў, — пільная справа і нам трэба яе раскусіць. — Тады прыходзьце. — Мне не хацелася нікога бачыць, аднак сяброўству патрэбныя ўсякія выпрабаванні. У такіх выпадках, міжчалавечыя сувязі трэба паставіць вышэй за маральнае ці фізічнае пахмелле.

А справа — аказалася — з гатунку добра мне вядомых. Інжынер Стручук збіраецца ў сталіцу, дзе, спалучыўшы свае сілы з сіламі інжынера Кашалюка, будуць расслаўляць нашу фабрыку. Час, — кажа, — трапіўся нам нецікавы, кругом капіталізм, і той не прападзе, хто ўмее сябе карысна прадаць. А з парожнімі рукамі ў сталіцу не паеду, трэба падрыхтаваць прапагандысцкія і справаздачныя матэрыялы. А дома, як гэта дома — мітусня і калатнеча.

Далей я мог не слухаць, і я — фактычна адключыў вушы, больш думаючы, дзе мне шукаць начлег. Ехаць у вёску не хацелася, ліміт непрадбачаных выдаткаў вычарпаўся — здаецца — на круглы год, Рэня — як даведаўся — у адным пакойчыку з маці.

— Пане Владку, вы мяне не слухаеце...

— Але ж слухаю, пане інжынер, шчыра слухаю. Думаю толькі, куды мне падзецца нанач?

— Я прашу прабачэння, так неспадзявана ўсё злажылася... Але, разумееце...

— Што тут не разумець, — кажу. — Зрэшты, горад вялікі, не прападу. А калі ўсё гэта дзеля нашай фабрыкі...

Інжынер паглядзеў на мяне дзіўна неяк, не так як начальнік глядзіць на свайго падначаленага. Ён спаглядаў на мяне так, як старэйшы брат спаглядае на малодшага, менш вопытнага брата.

— Пане Владку, — пачаў цяжка, сарамліва неяк, дабываючы словы. — Я абавязаны прызнацца вам у сваёй віне. Інжынер Кашалюк даўно ўжо згадвае, што вы заслугоўваеце больш, чым можа даць гэтая інструктарская пасада, а я вось, бачыце, усё сумняваўся. Прызнаюся — памыляўся я. Але, — уздыхнуў цяжка, разумеючы, відаць, сваю віну, — усё наперадзе. Здольны, інтэлігентны, а што галоўнае, адданы фабрыцы чалавек напэўна знойдзе належнае сабе месца.

Чакаючы належнае сабе жыццёвае і прафесійнае месца, я падаўся ў горад, каб разглянуцца за месцам куды больш празаічным, а менавіта — за начлегам.

І так яно ўжо бывае, калі найбольш спадзяешся на розум, калі ўсю сваю надзею ўскладаеш у галаву, тады ў месцы вышэй шыі паяўляецца пранізлівая пустэча, або — у найлепшым выпадку — нябачныя рэцэптары абвяшчаюць аварыю нервовай сістэмы.

Перамераўшы вуліцу Рэя, павярнуў я ў Пілсудскага, каб з нешматлікімі ўжо пехацінцамі паплысці ўніз, да скрыжавання. Аварыя нервовай сістэмы зацягвалася і нічога лепшага не аставалася, як брысці далей, у вуліцу 3-га Мая. Іду вось, а восеньскі дождж забівае ў зямлю апошнія асколкі маёй надзеі. Надзеі на якое-небудзь лагічнае заканчэнне суботняга дня.

Раздвойваючыся, плывуць асфальтам залатыя фары аўтамабіляў, чужыя людзі з'язджаюць у цёплыя кватэры. „Так, папраўдзе, усе мне тут чужыя", — падумалася, хаця ад гэтай разумнай думкі не стала ні крыху цяплей.

Скуль узялася тут пані Ліза — не ведаю. На пачатак пачуў я цёплае: „Пане Владку, а вы куды?", а потым з-за мокрай шыбы ўсміхнуўся твар пані Лізы. Адзіны — здавалася — добры, і адзіны ў горадзе, знаёмы твар. А потым, у машыне я многа гаварыў. Я гаварыў, што вельмі люблю шпацыраваць вечарамі, асабліва калі ідзе дождж, што такія прагулкі карысна ўплываюць так на фізічнае, як і псіхічнае самаадчуванне, і што чалавек у горадзе адзінокі. Пані Ліза маўчала, а я — баючыся спалохаць нешта незвычайнае — не глядзеў на яе, толькі ў люстэрка над лабавой шыбай. І люстэрка ўсміхнулася мне вуснамі пані Лізы.

— Як вы дашчэнту прамоклі, — прашаптала пані Ліза, у кватэры ўжо, расшпільваючы маю кашулю. — Трэба пераапрануцца.

А я сказаў, што не, што не трэба, і яшчэ — што можа ж вярнуцца інжынер Стручук, а тады нешта кепскае падумае пра мяне і пра яе, хаця яна такая добрая, і такая мілая, і прыгожая.

— Муж паехаў у Варшаву, — сказала пані Ліза, падсоўваючы мне шаўковую, сінюю ў белыя палоскі піжаму.

Чаму, замест сказаць, што інжынер Стручук усё яшчэ тут, у Гайнаўцы, узяў я і надзеў на сябе гэтую злашчасную паласатую піжаму? Так хіба было трэба. А пані Ліза засмяялася: афармленая на патрэбы інжынера Стручука піжама, ніякім спосабам не магла прыкрыць усе мае сто дзевяноста два сантыметры.

— Раней было значна лепей, — сказала.

Зняла з мяне дзіўную піжаму і кінула яе прэч. Цяпер выглядаў я зусім не смешна і пані Ліза таксама перастала смяяцца. Стаяла насупраць бы драпежная львіца, у любы момант гатовая скочыць на мяне, зубамі ірваць і кіпцюрамі, як у старажытным Рыме дзерлі першых хрысціянаў яе дзікія продкі.

Такое страшнае аднак не здарылася.

Разбудзіў мяне голас інжынера Стручука. У першы момант я нават спалохаўся і засароміўся: „Вось, — падумаў, — здрамнуў у бюро". А потым, вярнуўшыся да поўнай свядомасці, засароміўся яшчэ раз, і яшчэ раз, і яшчэ.

— Апранайся, — інжынер прама ў твар кінуў мне памятыя нагавіцы, а сам пайшоў на кухню.

У той час, калі я апранаўся, на кухні адбывалася сямейная гутарка. Гаварыў муж, а жонка маўчала.

— Я ўсё разумею. І твае мазахісцкія схільнасці, і пошукі першапачатковых прымітывізмаў, разумею нават твой культ фалічнага самца, як прычыну і вынік існавання ажыўленай матэрыі. Магу дараваць інкасатара з доўгім носам і булаватага каміінара, але зразумець, чаму завалакла ты пад коўдру галоўнага ідыёта ў нашым горадзе — задача вялікая, як на мой розум, задача!..

Так гаварыў інжынер Стручук, а пані Ліза рыхтавала ранішнюю каву. Я здагадаўся, што мяне гэтай кавай частаваць не будуць, і сышоў.

Перамена з інтэлігентнага, адданага фабрыцы чалавека ў апошняга ідыёта, якая за адну ноч адбылася ў спальні інжынера Стручука, была самай вялікай і найважнейшай трансфармацыяй у маім жыцці. Усё, што здарылася потым — вымова з папярэджаннем, паніжэнне на рабоце, а ў рэшце рэшт і звальненне з працы — я не лічу актам помсты. Гэта толькі лагічны рэзультат маёй ранейшай перамены.

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Белавежцы выдатна дапамагалі размалёўваць крыж.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## *Кароль і землякоп*

**(*літоўская казка*)**

Захацелася неяк каралю прачуць, як яго народу жывецца. Прыбраўся ён разносчыкам і пайшоў па дарозе.

Ішоў раніцай паўз лес, бачыць: чалавек ля дарогі канаву капае. Вечарам вяртаецца — той яшчэ работу не скончыў.

— Бачу, працуеш багата! — кажа кароль. — На што ж заробленыя грошы траціш?

— Адну частку заработку я ў ваду кідаю, — адказвае землякоп, — з другой часткі доўг выплачваю, трэцюю — сам у доўг даю, а з чацвёртай мы з жонкай кормімся, ды і тое надгаладзь.

Задумаўся кароль. І так і гэтак ацэньвае словы землякопа і ніяк не можа іх у толк узяць. Калі землякопу так цяжка працаваць — навошта ён грошы ў ваду кідае? А калі ён доўг выплачвае — навошта яму грошы на пазыку раздаваць?

Думаў, думаў кароль, нічога не прыдумаў і кажа:

— Не разносчык я, а твой кароль. Разносчыкам я прыбраўся, каб даведацца, як мой народ жыве. Разгадай мне тваю загадку — я табе тры залатыя дам. Толькі так мне гэтая загадка спадабалася, што ты больш нікому не думай яе разгадваць, пакуль яшчэ разок са мной не пабачышся.

Схаваў землякоп залатыя.

— На адну частку заработку я соль куплю — не магу прэснага есці. Ты ж, кароль, такі падатак на соль прызначыў, што бедны люд іншы раз толькі на соль і працуе. З другой часткі заработку я бацькоў сваіх кармлю — значыць, доўг ім свой вяртаю. Усё жыццё яны на паноў рабілі, а на старасці гадоў, калі б не я, з голаду б памерлі. На трэцюю частку я дзяцей сваіх гадую — значыць, на пазыку ім грошы даю. А на чацвёртую частку мы з жонкай кормімся, ды і тое надгаладзь. Вось ты і даведаўся, як народ твой жыве.

Прыехаў кароль дадому і зараз жа разаслаў ва ўсе канцы каралеўства такую грамату: хто яго каралеўскую загадку разгадае, той першым чалавекам пасля яго ў краіне будзе. З'ехаліся вяльможы ды знаць з усяго каралеўства, і задаў ім кароль землякопаву загадку. Ламалі яны галовы так і гэтак, але ніхто не мог загадку разгадаць. Так і раз'ехаліся вяльможы ды знаць ні з чым па дамах.

Другім разам кароль загадаў дробнапамесным дваранам прыехаць адгадваць загадку.

Вось прыйшоў да землякопа яго пан і скардзіцца:

— Кароль мне задаў такую цяжкую загадку, што ніхто адгадаць не можа: маўляў, нехта частку заработку ў ваду кідае, частку на пазыку дае, часткай доўг выплачвае.

— Скажы на ласку, ды ж гэта я такую загадку яму загадаў! А ён, бачыш, колькі людзей цяпер мучыць!

— А разгадку гэтай загадкі ты ведаеш? — пытаецца пан.

— А як жа! Кароль мне за яе тры залатыя даў.

— Я не тры, а два разы па тры залатыя табе дам, — кажа пан. — Толькі ты мне загадку гэтую адгадай!

Атрымаў землякоп шэсць залатых, а пан адправіўся ў палац каралеўскую загадку разгадваць. Ды так, слова ў слова, разгадку землякопа і сказаў.

Ну, кароль, канечне, здагадаўся, што землякоп абяцання свайго не стрымаў.

„Ах ён такі-сякі! Разгадку расказаў! — думае кароль. — Я ж яму загадаў, пакуль ён мяне хоць раз яшчэ не ўбачыць, нікому загадку не разгадваць!"

Кліча кароль землякопа — смерцю караць яго хоча.

Сабраўся бядняк у палац, а ў хатулі з сабой залатыя прыхапіў — тыя тры, што кароль яму даў, ды яшчэ шэсць, якімі пан з ім разлічыўся.

— Навошта ж ты пану сваю загадку разгадаў? — спытаў кароль грозна. — Мы ж дамовіліся: пакуль ты не пабачышся са мною, нікому загадкі сваёй не адкрыеш.

— Я ўжо не раз пабачыў цябе, — адказаў землякоп, — а тройчы тры разы. — Развязаў ён хатуль, паказаў свае залатыя. — Бачыш, на кожнай манеце твая галава.

А каралю і сказаць няма чаго!

## *Крыжаванка № 25*

*Даслала Бажэна ЛЯЎЧУК з ПШ у Дубічах-Царкоўных*




**Адказ на крыжаванку н-р 21:**

Ганак, унітаз, сава, атлас. Густ, банал, ніва, пат, ас, Ака, зуб.

Узнагароды, **сегрэгатары**, выйгралі: **Аліцыя Гацута** і **Рыгор Дзікевіч** з ПШ у Махнатым, **Дарак Екацярынчык** з Кнарыд, **Сава Астапчук** з Гарадка, **Івона Леанюк** і **Радак Хіліманюк** з бельскай „тройкі".

Віншуем! Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы" або чакаць іх у сваёй школе.

## *Эксперымент у кухні*

Глядзіць у рэцэпт наша Мартынка,
Каб хоць не памыліцца ў складзе.
Вось рашыла сёння дзяўчынка
Маме спячы бісквіт у шакаладзе.
Яйкі, мука — гэта простая справа.
Але ж эсперыментаў так хочацца...
— Дадам вось яшчэ разынак, какаву,
Можа яшчэ і... кісялю горбачку?..
Цяпер замясіць, каб ад рук адставала.
Паставіць у печку, каб добра спяклося.
І маму прымусіць, каб скаштавала...
Вось гаспадынька — Мартынка-самося!

**Міра Лукша**

# Епіскап Міран асвяціў наш крыж

Асвячэнне крыжа сталася падзеяй. Сам епіскап гайнаўскі Міран прыехаў у Белавежу. Яго праасвяшчэнства паблаславіў нашу ідэю і асвяціў крыж. Крыж ахвяраваны св. памяці пратаіерэя Клаўдзія Пушкарскага, святара, які сорак гадоў служыў у белавежскай царкве.

Падумаеце, якім спосабам крыж „Зоркі" знаходзіцца ў Белавежы?

Этнограф Эва Мароз-Кэчынская і яе дзеці з „Klubu tropiciela" пабывалі на XI Сустрэчах „Зоркі", на якіх таксама быў пастаўлены каляровы крыж у Студзіводах. І дзякуючы стараннем пані Эвы наша ідэя завандравала ў Белавежу.

Вялікая падзяка належыцца айцу Сяргею Корху. Белавежскі настаяцель спраўляў духовую апеку над працай. Бацюшка з'яўляецца фундатарам крыжа і ініцыятарам ахвяравання яго памяці пратаіерэя К. Пушкарскага.

Згадайма, першы праект каляровага крыжа прыдумаў беларускі мастак Лявон Тарасэвіч на Сустрэчах „Зоркі" ў Меляшках. Зараз на Беласточчыне сустрэнеце такія крыжы ў Каленіі Меляшкі, Бельску-Падляшскім, Студзіводах.

Мастацкім апекуном белавежскага крыжа быў Алег Кабзар. А размалявалі яго дзеці з Белавежы і ўдзельнікі XIII Сустрэч „Зоркі".

**Ганна КАНДРАЦЮК**



*Надпіс на крыжы: Белавежскія дзеці і ўдзельнікі XIII Сустрэч „Зоркі" ахвяруюць гэты крыж памяці айца К. Пушкарскага. Року Божага 6 VI 98.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК



*Айцец Сяргей Корх і матушка спраўляюць духовую апеку.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# XIII Сустрэчы „Зоркі"

У днях 5-7 чэрвеня г.г. у Белавежы праходзілі XIII Сустрэчы „Зоркі". У мерапрыемстве прыняло ўдзел 39 асоб — з Белавежы, Гайнаўкі, Чыжоў, Бельска-Падляшскага, Беластока, Гарадка, Гданьска. Сярод іх былі карэспандэнты „Зоркі", белавежскі краязнаўчы гуртох „Klub tropiciela", гайнаўскія ліцэісты, дзеці з Белавежы.

XIII Сустрэчы „Зоркі" адводзіліся навуцы пісання прэсавай інфармацыі. Тэарэтычныя і практычныя заняткі вялі вядомыя журналісты „Нівы" і „Czasopisa": доктар Лена Глагоўская, Вячаслаў Харужы і Аляксандр Максімюк з Беластока.

Дадаткова ўдзельнікі „Сустрэч", разам з дзеткамі з Белавежы, размалявалі каляровы крыж, наведалі наваколле і сустрэліся з паэтам Барысам Руско.

**Нашымі спонсарамі былі: Польскі фонд дзяцей і моладзі, Праваслаўная парафія ў Белавежы** (фундатар крыжа) і **Аляксандр Палескі**.

Арганізатары і ўдзельнікі XIII сустрэч „Зоркі" кіруюць словы падзякі **Брацтву праваслаўнай моладзі** і дырэктару бельскай „тройкі" **Васілю Ляшчынскаму**.



*Мастацкі апякун Сустрэч „Зоркі" Алег Кабзар паясняе спосаб размалёўкі крыжа.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК



*Эва Мароз-Кэчынская дапамагае дзецям.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Вясёлы куточак

— Калі не будзеш слухацца, тады памяняю цябе на другое дзіця, — пагражае маці свавольнаму сынку.

— А хто ж памяняе сваё паслухмянае дзіця на такога жуліка, як я?

* * *

— Ці мама дома? — пытае Марка суседка.

— Не, няма.

— А тата?

— Няма.

— А можа ёсць бабулька?

— Бабуля таксама ўспела схавацца.

* * *

— Твая дамашняя праца напісана выдатна, — звяртаецца настаўніца да Яся. — Прызнайся, хто табе яе напісаў!

— Не ведаю, бо я ўжо спаў.

* * *

— Татка, — паведамляе вучань, — сёння ў нашай школе адбудзецца сход, у якім прымуць удзел мая выхавацелька, пан дырэктар і ты.

* * *

— Сыночку, — пытае бацька, — чаму ты прыклеіў маю фатаграфію ў свой школьны бюлетэнь?

— Бо наша настаўніца сказала, што хоча пабачыць таго разумніка, які дапамагаў мне рабіць урокі.

Літаратура — наша прафесія. (Вячаслаў Адамчык)

# Пегас з торбай?

**Ці змогуць беларускія пісьменнікі паразумецца з уладай?**
**— У крайнім выпадку дадуць нам торбу з аўсом, каб ціхенька хрумсцелі. Тым часам свядомую моладзь будуць па-ранейшаму збіваць і знявольваць. Хіба можна не бачыць гэтага? Саюз пісьменнікаў павінен стаць апорай для тых, хто яшчэ не адвык чытаць па-беларуску, стаць асяродкам прыстойнасці, мужнасці, урэшце — беларускасці, — сказала на XII З'ездзе Саюза пісьменнікаў Беларусі Вольга Іпатава.**


*Анатоль Сыс, Ігар Лучанок (старшыня Саюза кампазітараў), Мікола Мятліцкі.*

**Куды ні кінь**

У перадз'ездавых меркаваннях будучыня Саюза бачылася благавата. „Бачыцца яна без асаблівага шчасця, — разважаў Алег Ждан. — Без грошай, без сяброўства, без яснае мэты, без удзячных нашчадкаў, без... Добра было б, каб з'езд выпрацаваў новы змест дзейнасці. Але ж змест не выпрацоўваецца на сходзе, яго падказвае толькі само жыццё. Раней мы шукалі на пасаду старшыні чалавека сціплага, памяркоўнага, разумнага, прыемнага ва ўсіх адносінах. А трэба, відаць, — упартага, незгаворлівага, наравістага". А Павел Міська будучыню Саюза пісьменнікаў бачыў вельмі змрочнай. Чаму? „Ідэям Адраджэння, якія яшчэ колькі гадоў натхнялі і аб'ядноўвалі амаль усіх членаў Саюза і якім яны служылі, шмат хто здрадзіў, пабег не служыць, не «глаголом жечь сердца людей», а ўслугоўваць тым, хто мае ўладу, хутчэй ухапіць тлусцейшы кавалак (пакуль ёсць магчымасць). Раскол у пісьменніцкіх шэрагах вялікі (хто-ніхто задаволена зацірае рукі). Пісьменнікаў, што не вітаюцца адзін з адным, робіцца ўсё больш. Утрымаць іх надалей у адной спрэжцы будзе цяжка. Але калі з'езду ўдасца выпрацаваць адзіную агульную платформу, Саюз будзе жыць. Інакш рассыплецца на групкі, суполачкі, прападзе і той лад, што быў дасюль. Ад таго, якая каманда прыйдзе да кіраўніцтва, у многім будзе залежаць і работа, і лёс Саюза. А шэрагі СП будуць расці. Маладая генерацыя пісьменнікаў ідзе густая, і на яе вялікія спадзеўкі. Яна і забяспечыць будучыню беларускае літаратуры".

**Захаваць чалавечае і сваё**

На З'ездзе, які адбыўся ў канцы красавіка г.г., прысутнічала 330 чалавек з 498 членаў СП, прафесійных літаратараў, літаратуразнаўцаў, публіцыстаў. Прысутнічалі таксама афіцыйныя асобы: намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Іван Пашкевіч, старшыня Дзяржкамдруку Міхал Падгайны, міністр культуры Аляксандр Сасноўскі, ад Саюза кампазітараў Ігар Лучанок, ад пісьменнікаў Расіі члены дзвюх літаратурных канкурэнтных арганізацый Васіль Бялоў, Уладзімір Бандарэнка, Ігар Ляпін (якраз ім, расійскім пісьменнікам, падзякаваў за прысутнасць Генадзь Бураўкін, ды яшчэ больш шчыра падзякаваў, пры адабрэнні цэлай залы, за дрэнны прыклад раз'ядноўвання сваіх радоў і выразна, рашуча крыкнуў: **Мы не падзелімся, не чакайце гэтага!** — рэакцыя прысутных была такая, што тыя панове, якія па палітычных і іншых прычынах звалі за разламам, будучы ў прэзідыуме, не выйшлі да трыбуны і нават слова не піснулі, каб дзяліць усё ж такі цэлае).

З дакладам выступіў Васіль Зуёнак, старшыня рады СПБ. Ён акрэсліў мэты і задачы, якія стаяць перад пісьменнікамі ў наш час: *Праца па ачышчэнні душ людскіх ад маральнай пошасці і брыдоты, малітва натхнёным словам мастака за ўратаванне боскіх пачаткаў чакае нас.* Самае галоўнае — захаваць нацыянальную самабытнасць, мову, памяць, прапагандаваць творы таленавітых беларускіх пісьменнікаў, а тым самым і духовы патэнцыял нацыі. Закрануў паэт вядомыя і балючыя справы — існаванне беларускіх школ, падтрымка выдання беларускамоўных кніг, часопісаў і газет з боку дзяржавы, перакладчыцкую дзейнасць. Трэба пашыраць прапаганду беларускай літаратуры, але, вось, у СП няма грошай на творчыя камандзіроўкі. Закрануў многія цяжкія праблемы жыцця пісьменніцкай арганізацыі, як катастрафальная сітуацыя з Домам творчасці „Іслач", які занепаў з-за адсутнасці сродкаў. Былі ўнесены прапановы аб некаторых зменах статута, дзеля паправы таксама і фінансавай сітуацыі. Расказаў пра гісторыю страты Дома літаратара. *Мы звярталіся ў суд, праводзілі пікеты, але нам адказвалі: «Мы навядзём парадак».* Усе пісьменнікі лічаць, што Дом літаратара павінен быць захаваны як цэнтр творчага жыцця пісьменніцкай арганізацыі і наогул творчай інтэлігенцыі.

У дыскусіі выступіла каля 20 чалавек. Асабліва балючымі былі выступленні Ніла Гілевіча, Генадзя Бураўкіна, Вольгі Іпатавай, Уладзіміра Дамашэвіча аб духовым спустошэнні грамадства, аб татальнай асіміляцыі. *У духу 30-х гадоў абрушваюцца праклёны на недадушаных беларускіх «нацдэмаў».* На думку Г. Бураўкіна, Саюз сапраўды хворы, пра што сведчыць прыём у яго апошнім часам не толькі кепскіх пісьменнікаў, але і малапісьменных людзей. Адзначыў нерашучасць былога кіраўніцтва СПБ. Звярнуў таксама ўвагу (у адказ на заўвагі І. Пашкевіча, што пісьменнікі не хочуць

**размаўляць з Прэзідэнтам,**

не просяцца ў яго дапамогі), што на адкрыты ліст прэзідэнту народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна так і не было ніякага адказу, што з'яўляецца паказчыкам культуры вярхоўнай улады дзяржавы: *Калі ўлада хоча, каб яе паважалі, трэба, каб яна паважала культуру народа, якім кіруе. Пакуль жа нацыянальнай культурай кіруюць чыноўнікі, раўнадушныя да яе, беларуская інтэлігенцыя не будзе заадно з урадам.*

Уладзімір Дамашэвіч спадзяецца, што мова і культура Беларусі адродзяцца, *як адраджаецца трава там, дзе з зямлі прыбіраюць каменную пліту.*

Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта, мілавідны чалавек, някепска валодаючы беларускай мовай (ніколі не хваліцца гэтым там, дзе працуе) наракаў на тое, што пісьменнікі не папрасілі грошай на правядзенне з'езду, не хочуць паразмаўляць пра мізэрныя ганарары, што не відаць з іх боку ніякай ініцыятыўнасці, каб пасупрацоўнічаць з уладай, а прэзідэнт жа клапоціцца і аб гэтым. Не былі падтрыманы адпаведнымі сустрэчнымі ініцыятывамі прапановы м.інш. па заснаванні фонду на падтрымцы стварэння твораў літаратуры і мастацтва. Раіў Іван Іванавіч, каб не пратвараць праблему перадачы Дома літаратара пад апеку Адміністрацыі Прэзідэнта ў справу палітычную, бо ж падставы былі для гэтага *толькі эканамічныя і вымушаныя.*

Так што — з'езд не разваліў Саюза пісьменнікаў, хоць часткова перасварыў (ужо пасля), структуры крыху змяніліся, выбраны на старшыню рады СП чалавек энергічны, таленавіты і досыць малады — Уладзімір Някляеў. Яму і прыйдзецца размаўляць таксама і з прэзідэнтам, які гатовы пераканаць пісьменнікаў аб сваёй гатоўнасці служыць Радзіме. Хіба не такім чынам, як парламентарыяў?..

**Міра Лукша**
*Фота аўтара*

# „Для Вас і для Бога"

— сказаў Ігар Мацюхоў, пачынаючы канцэрт Дзяржаўнага камернага хору Рэспублікі Беларусь у касцёле св. Мікалая ў Гданьску 29 мая г.г. Касцёл быў запоўнены да апошняга месца. Па ініцыятыве Міколы Бушко, дырэктара Гайнаўскага дома культуры канцэрт арганізавала Балтыйская філармонія, якой кіруе Раман Пэруцкі, вялікі прыхільнік беларускай музыкі. Мастацкі кіраўнік хору Ігар Мацюхоў (на здымку) канферансвеў на беларускай мове.



І так, на пачатак хор выканаў беларускія калядкі, пасля пасхальныя песні, далей царкоўныя кампазіцыі Дзмітрыя Бартнянскага і іншых кампазітараў. А на заканчэнне прагучэла „Многае лета". Шкада, што ў рэпертуары хору не было гімна „Магутны Божа", якога чакалі ўсе гданьскія беларусы, што прыйшлі паслухаць беларускія духоўныя спевы. Харысты гаварылі, што гімн заспяваюць у Гайнаўцы. Канцэрт маладога хору (існуе ён з 1988 года, а сярэдні ўзрост харыстаў — 28 гадоў) вельмі спадабаўся нам, беларусам, хаця неяк не на месцы былі калядкі, хоць звычайна спяваюцца ў калядна-навагодні перыяд.

Пятро Скепка, які ад Камітэта Фестывалю царкоўнай музыкі прывёз хор у Гданьск і тут ім апекаваўся, наракаў на гукаўзмацняльную апаратуру і асвятленне ў касцёле. Рэклама канцэрта была аднак выдатная: вялікія плакаты ў горадзе, інфармацыя па радыё і ў мясцовай прэсе.

Пасля канцэрта, калі мы праводзілі спевакоў да іхняга аўтобуса, маладыя харысты захапляліся прыгажосцю Гданьска. Мы цікавіліся іхняй сітуацыяй у Беларусі. Калі даведаліся, што ў дзяржаўным хоры можна зарабіць у месяц толькі 60 долараў, дзівіліся як можна пражыць. „Хто мае агарод, каму бацькі дапамагаюць", — адказвалі. Усё ж такі дзіўна, як можна цудоўна праслаўляць Беларусь і яе музыку за жалюгодную зарплату.

Мы мелі нагоду хоць трошкі падтрымаць харыстаў, купіўшы ад іх касеты і кампакт-дыскі з цудоўнай беларускай духоўнай музыкай.

Спонсарамі канцэрта беларускага камернага хору былі авіякампанія „Lot" і піваварня „Heweliusz".

**Лена Глагоўская**

**Доказам веры ў аздараўленне з'яўляецца мноства хустачак, якія застаюцца на плоце і кусціках.**

# *Цуды ў Крыначцы*


*Кожны хоча, каб хаця кропля ўпала з крыжа.*

Паломнік, які наведвае Крыначку, месца што знаходзіцца сярод дубровы Белавежскай пушчы непадалёк Гайнаўкі, бачыць драўляную царкву і калодзеж, абгароджаныя высокім плотам з калючым дротам.

— Пасля II сусветнай вайны ўлады хацелі разабраць царкву, але канчаткова абгарадзілі гэтым плотам, — успамінае вернік.

Ужо ад самай раніцы на другі і трэці дзень Святой Тройцы ў Крыначку едуць безупынна машыны, аўтобусы, веласіпеды, а па абочынах ідуць людзі. Кожны хоча напіцца аздараўляльнай вады, памыцца ёю і прывезці дамоў для радні. Розныя ласункі і цацкі, якія прадаюцца побач, заахвочваюць таксама і дзяцей наведаць гэтае месца.

У аўторак 9 чэрвеня багаслужбу з удзелам некалькіх тысяч вернікаў і многіх святароў узначаліў гайнаўскі епіскап Міран, які падчас пропаведзі адвёў месца 150-годдзю існавання на Крыначцы цяперашняй царквы.

**З мінулага**

— Месца, якое сёння называем Крыначкай, вядомае ад пачатку XIII стагоддзя, калі пасяліліся тут манахі з Кіеўска-Пячэрскай лаўры, якія ўцяклі ад татараў. Пасля манахі прыходзілі сюды маліцца, а да іх далучаліся мясцовыя, — расказвае настаяцель прыхода ў Дубінах, якому належыць Крыначка, айцец Віталій Гаўрылюк. — Даўней гэтае месца, так як і ручаёк, называлася Меднае. Пасля ручаёк высах, засталася толькі крыніца і ад яе пайшло названне Крыначка.

**Хустачкі з турботамі і хваробамі**

Ад самай раніцы каля калодзежа мноства людзей, дык трэба стаяць і ў чарзе.

— Спачатку трэба пайсці ў царкву і памаліцца, — расказвае спадарыня Анастасія Шпарло, жыхарка Дубін, якая многа гадоў спявала ў прыхадскім хоры. — Многія даюць запіскі за здароўе і ідуць да споведзі. Пасля багаслужбы хрэсны ход ідзе на святое месца, дзе асвячаецца ўзятая з калодзежа вада. І толькі тады людзі павінны піць гэтую ваду і абмываць хворыя месцы. Без малітваў і веры ў дапамогу Святой Тройцы аздараўлення не будзе. Гэта будзе толькі традыцыя.

Людзі наліваюць ваду ў розныя бутэлькі, слоікі і іншы посуд, каб завезці сваёй радні. Моляцца каля іконы Божай Маці, што каля калодзежа і з вадой адыходзяць убок. Там п'юць яе і абмываюць ёю хворыя месцы, некаторыя часткова распранаюцца. Пасля дакладна выціраюцца спецыяльна падрыхтаванымі і прывезенымі з дому хустачкамі. Вераць, што беды, турботы і хваробы адыдуць разам з пакінутымі хустачкамі. Мноства хустачак застаецца на плоце, дрэвах і кусціках.

**Цудоўныя аздараўленні**

— Калісь захварэла наша сваячка з Навасад, што з дому ад Сільванюковых. Так ёй страўнік балеў, што не магла ўжо есці. Пасля прысніўся ёй сон, што ў вялікі пост павінна валамі паехаць у Крыначку і там памыцца. Калі яна ўсё гэта зрабіла, дык у дарозе назад аздаравела. Ужо ў Ліпінах муж купіў ёй хлеб, а ў добрым здароўі пражыла каля 100 гадоў, — расказвае Мікола Балтрамюк, які сорак гадоў быў старастам ў Дубінскім прыходзе.

Параска з Койлаў нядаўна прыязджала ў Крыначку і расказвала пра ваду, якая выступала з каменя пад царквой. Жанчына брала гэтую ваду, націрала балючую нагу і боль адыходзіў.

— У мінулым годзе выступаў па тэлебачанні мужчына з Варшавы, які меў пухліну на шчацэ і аздаравеў абмываючы яе святою вадою з Крыначкі, — кажа айцец Віталій Гаўрылюк. — Аднак калі пераставаў мыць штодзень, шчака зноў сінела. Раней, калі ўваход на Крыначку быў забаронены, ён употай наведваў калодзеж і са свежай вадой вяртаўся ў Варшаву. Зараз штогод прыязджае, каб памыцца і памаліцца.

— Мая цётка, зараз 91-гадовая Ніна Кавальчук, што жыве ў Берліне, калі яшчэ была маленькай дзяўчынкай, разам са сваёй мамай лазіла ў Крыначку. Менавіта ў гэтай бабулі пагінулі балячкі, калі памылася вадою з калодзежа, — успамінае Анастасія Шпарло. — А ў маёй суседкі таксама згінуў гуз, калі памылася вадою з лясного калодзежа.

— Мая мама расказвалі, што бачылі, як жанчына аздаравела памыўшы хворую нагу і пакінула мыліцу каля калодзежа, — успамінае Надзея Трашчотка з Гайнаўкі, якая штогод прыязджае ў Крыначку.

Вера людзей у паратунак, мноства хустачак на плоце і кусціках і апаведы пра цудоўныя аздараўленні прыцягваюць іншых.

— Гэта праўда, што „калі трывога, дык да Бога", — закончыла Анастасія Шпарло нашу гутарку ў Крыначцы.

**Аляксей Мароз**


*Хустачкі, як доказ веры.*

# *50 гадоў Беларускай царквы на эміграцыі*

**5 чэрвеня мінула 50 гадоў з дня заснавання Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы на эміграцыі. Па сённяшні дзень з'яўляецца яна асноўным фактарам, які спрыяе захаванню тоеснасці і нацыянальнай свядомасці сярод беларускіх эмігрантаў на захадзе Еўропы, у Амерыцы і Аўстраліі.**

Першыя спробы стварэння Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, незалежнай ад Маскоўскага патрыярхату, адбыліся ў 1922 годзе. Першы перыяд існавання савецкай Беларусі, а асабліва беларусізацыя рэспублікі, спрыялі таксама пашырэнню намаганняў дзеля стварэння свае нацыянальнай Царквы. Такім ходам падзеяў зацікаўлены быў таксама мінскі мітрапаліт Мелхіседэк. Планавалася абвясціць аўтакефалію ў палове 1927 года. У той час, аднак, саветы пачалі мяняць канцэпцыю ўнутранай палітыкі. Мітрапаліт Мелхіседэк быў вывезены ў Краснаярск, а пасля ў Маскву, дзе неўзабаве загінуў. У 1929-1937 гадах у турмах і канцлагерах загінулі амаль усе святары і епіскапы, якія прабавалі стварыць Беларускую аўтакефальную царкву.

Ажыццяўляць ідэю аўтакефаліі пачалі беларускія дзеячы падчас нямецкай акупацыі. У 1941-1942 гадах было сфарміравана царкоўнае кіраўніцтва, якое ўзначаліў мітрапаліт Панцеляймон. У канцы жніўня 1942 года Сабор Беларускай царквы зацвердзіў статут аўтакефальнай арганізацыі, але паўстрымаўся з яе аб'яўленнем да часу заканчэння вайны.

Вясной 1944 года епіскапы і святары Беларускай царквы эвакуіраваліся ў Нямеччыну. У лютым 1946 года большасць епіскапаў пакінула сваіх вернікаў і далучылася да Расейскай замежнай царквы. Дзесяткі тысяч беларускіх уцекачоў, былых рабочых, вывезеных гітлераўцамі ў Нямеччыну падчас акупацыі Беларусі, якія па розных прычынах не хацелі вяртацца ў Савецкі Саюз, і салдаты польскага войска беларускай нацыянальнасці аставаліся без свае Царквы.

У выніку намаганняў Беларускага царкоўнага камітэта і Беларускага праваслаўнага аб'яднання 5 чэрвеня 1948 года ў Канстанцы (паўднёва-заходняя Нямеччына) быў скліканы I Сабор Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы на эміграцыі. З-за адсутнасці беларускіх епіскапаў трэба было беларускім грамадскім дзеячам шукаць дапамогі ў кіраўніцтве Украінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы на эміграцыі. У саборы Беларускай царквы ўдзельнічаў украінскі епіскап Сяргей, які фармальна ўзначаліў гэтую арганізацыю.

У снежні 1949 года ў сан епіскапа быў рукапаложаны беларус, архімандрыт Уладзіслаў Тамашчык, які прыняў манаскае імя Васіль. Ён у сапраўднасці арганізаваў рэлігійнае жыццё праваслаўных беларусаў на эміграцыі. Прыходы Беларускай царквы пачалі ўзнікаць у Францыі, Нямеччыне, Англіі, Бельгіі. Пры канцы 1951 года было іх звыш дваццаці. Адначасова на пачатку пяцідзесятых гадоў пачалася вялікая хваля міграцыі ў ЗША, Канаду і Аўстралію. Там таксама арганізаваліся новыя прыходы, туды эмігравала шмат святароў. Дзеля ўпарадкавання царкоўнага жыцця ў Аўстралію пераехаў архіепіскап Сяргей, а ў Амерыку — епіскап Васіль. Такі стан працягваўся да 1968 года, калі епіскапамі сталі архімандрыты Андрэй (Аляксандр Крыт) і Мікалай (Міхаіл Мацукевіч). Епіскап Мікалай узначаліў беларускае царкоўнае жыццё ў Канадзе, а Андрэй — у Злучаных Штатах. Пасля смерці архіепіскапа Сяргея, у 1972 годзе ў Амерыцы адбыўся II Сабор Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, які мітрапалітам выбраў архіепіскапа Андрэя, а сядзібай кіраўніцтва Беларускай царквы на эміграцыі вызначыў горад Клііўленд.

Беларуская праваслаўная царква на эміграцыі з'яўляецца адзінай царкоўнай установай, якая дзейнічае сярод беларусаў і якой святары ды епіскапы падчас набажэнстваў карыстаюцца мовай вернікаў.

**Яўген Мірановіч**

# Дастаў пыласос!!!

*(заканчэнне; пачатак у 23 нумары)*

І я напісаў:

„Начальніку горада Г.

Прашэнне

Звяртаюся да пана начальніка з ветлівай і пераканаўчай просьбай выдаць мне пасведчанне на права куплі новага пыласоса. Просьбу сваю матывую тым, што, па-першае, мой пачцівы стары пыласос выйшаў ужо са строю і не надаецца ўжо да рамонту па старасці. Ён больш-менш мой равеснік. Каб нават было яшчэ і магчыма яго адрамантаваць, кошты рамонту гэтага дзядулі ніяк не аплацяцца яго працаздольнасцю і яўна пярэчылі б правам эканомікі і здароваму сэнсу, за абыякавыя адносіны да якіх ужо і так нямала плаціць наша грамадства. Па-другое, як прафесіі членаў маёй сям'і (настаўнік, міласэрная сястра і дзве вучаніцы), так і феміністычная яе спецыфіка (адзін мужчына і тры жанчыны) патрабуюць дбаць пра чысціню і парадак дома.

У заключэнні яшчэ раз ветліва і пераканаўча прашу пана начальніка зразумець маю сітуацыю і не адказаць у маёй просьбе.

Подпіс".

Жонка дакладна прачытала прашэнне і, здаецца, была задаволена. Не, не з мяне, а са зместу прашэння, і панесла яго на месца прызначэння.

Я таксама быў задаволены прашэннем. Ніколі не думаў, што магу быць аж такім пераканаўчым у пісьме! Відаць, прымаўка „патрэба — маткай вынаходства" мае сваё шырэйшае значэнне.

Як маёй жонцы ўдалося сфарсіраваць пакой сакратаркі і адразу ўручыць маё прашэнне асабіста галаве горада, не ведаю. Ведаю толькі, што чытаючы прашэнне начальнік двухсэнсоўна ўсміхаўся. Гэтая начальніцкая ўсмешка і збіла маю жонку з панталыку: яна не ведала, а ведаць хацела вельмі, ці гэта добры знак, ці — не. Была загадкай яна і для мяне. Наконт яе склаліся ў мяне два альтэрнатыўныя погляды: або пан начальнік задаволены маімі вельмі сур'ёзнымі адносінамі да яго асобы, да высокай пасады, якую мае гонар займаць і, канешне, да пыласоснай праблемы, развязка якой залежыць толькі ад яго — і гэта была б усмешка радасці і самазадавальнення, або гэта была ўсмешка спачування маёй жонцы, што мае мужа разяву. З прашэння можна было вычытаць адно і другое.

Як бы там зрэшты не было, але пан начальнік раптам пасур'ёнеў і сказаў даведацца ў пятніцу. На гэты раз пайшоў зноў я і зноў — няўдача. У канцылярыі нічога канкрэтнага на маю тэму сказаць не маглі, бо не ведалі, а пан начальнік успеў ужо выйсці з працы. Казалі прыйсці ў панядзелак.

Панядзелак аказаўся мне добрым днём. Ён змяніў маё жыццё як у эстэтычным сэнсе, так і мой светапогляд. З таго часу я ўжо не веру ў ніякія забабоны, як напрыклад тое, што ў панядзелак не варта нічога афармляць, бо гэта дзень „майстэрскі" — дзень няўдачнік. Глупства ўсё гэта і цемрашальства, выдумка варожых нам элементаў, можа нават самога КДБ. А я ж, дурань, думаў тады, што гэта работа амерыканскіх капіталістаў, каб шкодзіць нашаму рабочаму класу і працоўнай інтэлігенцыі.

Не мушу, бадай, дадаваць тут, што гэты дзень змяніў адносіны маёй жонкі да мяне, на лепшае, вядома.

Усе гэтыя станоўчыя змены ўва мне і ў маёй сям'і наступілі пад уплывам маленькай нявіннай службовай пісулькі. Вось яе змест: „W odpowiedzi na podanie z dnia 7.12.1983 r. uprzejmie informuję, że przydzielam Obywatelowi odkurzacz z rożdzielnika IV kwartału bieżącego roku na wypadki losowe". Подпіс і дзве пячаці.

Самі бачыце, пісулька і мілая і з захаваннем усіх правіл чыноўніцкай літаратуры. У маіх вачах гэта проста класіка, шэдэўр. І перахоўваю я яе як найлепшую рэліквію.

З гэтай рэліквіяй уся мая сям'я з'явілася ў адпаведнай краме і пачала між сабою горача спрачацца, які нам узяць пыласос, бо на наша няшчасце было іх аж тры маркі і кожнаму падабалася іншая. Нашы творчыя спрэчкі перарвала прадаўшчыца, інфармуючы, што такім пакупнікам як мы прыслугоўвае толькі адна марка — найтаннейшая...

І правільна. Навошта траціць час і энергію дарма? І па-другое, ці ж мала таго, што заварочваў галаву гарадской уладзе, і што дзеля маёй прыватнай справы склікана было пасяджэнне ці нават пасяджэнні, і гэтым самым быў патрачаны імі час, які напэўна быў бы спажыткаваны на іншыя важныя справы? І яно, начальства, ушанавала мяне, шэрага грамадзяніна, то дай яшчэ перабіраць у дэфіцытных таварах?!. Аб'ектыўна разважаючы, было гэта нават ненармальным з нашага боку...

І вось мы атрымалі жаданы пыласос! Якім жа індыкам сунулі мы з ім па вуліцах горада, а прахожыя ні на хвіліну не давалі нам спакою: „даюць пыласосы?", „даюць пыласосы?" „даюць пыласосы?" А мы горда, з высока паднятай галавой нязменна: „Даюць, але не кожнаму". Рамантыка.

Так купляліся, так афармляліся справы ў час пакойніцы камуны.

Хтосьці, наіўны, вядома, можа сказаць тут: вялікая справа пыласос у наш век атаму і міжпланетных палётаў! Тым больш, што не задарма ж? Канешне, важная. І не ставіў бы ён такіх наіўных пытанняў, каб ведаў, які магутны прыліў радасці і аптымізму, пачуцця ўласнай вартасці і годнасці ахапілі нас. Вельмі шкада, што не кожнаму было дадзена перажыць такое. Менавіта гэта, па-мойму, было найлепшым, найздаравейшым бокам нібыта і хворай сітуацыі. Там мог спраўдзіцца кожны, нават разявака, бо якраз знайшоўся ў месцы, дзе выкінулі на прылаўкі тавары. Так аднойчы, напрыклад, мне ўдалося купіць швейную машыну, хаця ніколі раней мы не думалі пра куплю швейнай машыны. Дзе ж вы яшчэ падобнае ўбачыце? Бадай ужо нідзе...

А як цяпер, у эпосе „камуніі" (як многія называюць сучасны наш строй) купляем?

Аж прыкра, няма нават аб чым і гаварыць, не тое, што пісаць. От проста заходзіш у краму і купляеш. Так лёгка набыты тавар, на жаль, задавальнення не дае. Ідзе чалавек, абчэплены таварамі як мул, а на твары яго ні ўсмешкі, ні радасці, ні задавальнення, нібыта так і павінна быць. Такія пыласосы, напрыклад, ляжаць цяпер грузам, як металалом нейкі. А прадаўцы — аж смех чалавека бярэ і слухаць прыкра — адзін перад другім навыперадкі спаборнічаюць у падлізніцтве да пакупніка. Паўнейшая дэградацыя яшчэ нядаўна такой цудоўнай і прэстыжнай прафесіі!

Ужо з гэтага супрацьстаўлення выразна відаць, што перыяд камуны быў больш каларытным, як перыяд „камуніі". А яшчэ некаторыя неадказныя людзі маюць нахабства гаварыць аб страчаных сарака гадах! Абкрадаюць камуну як з канкрэтных прадметаў, так і з абстрактных паняццяў. Як так можна? Мой пыласос і да сёння мне верна служыць. Няхай сабе і скарабачаны ён, і няшчыльны і паабклейваны пластырам, але цягне як халера: на адлегласць паўтара метра трусы з чалавека сцягне. Думаю, так і кожны з вас напэўна штосьці ад народнай улады атрымаў: хто дачу, хто машыну, хто медаль ці ордэн, хто пыласос, а хто і кару. Усім, канешне, дагадзіць немагчыма. У чым гэта не плюралізм, скажыце? Поўная і багатая гама яго, хоць некаторыя робяць уражанне, што моднае і прэстыжнае цяпер паняцце „плюралізм" — гэта вынаходства „камунійнай" улады. Фэ...

**Васіль Сакоўскі**

# Пачатак вайны ў Чаромсе

22 чэрвеня 1941 г. разбудзілі мяне дзесь а 5-й гадзіне раніцы моцныя выбухі бомб на станцыі Чаромсе. Задрыжэлі вокны і сцены дома. Я саскочыў з пасцелі, падбег да акна і пачуў у небе такое гудзенне самалётаў, якое запамяталася мне з верасня 1939 г., калі немцы бамбілі станцыю Чаромху. Гудзенне нямецкіх самалётаў было зусім іншае чым польскіх ці савецкіх, нейкае прарывістае і звонкае. У пакой убегла маці і з гарычу ды страхам сказала: „Ізноў пачалася вайна!" Я хутка ўмыўся, з'еў снеданне на стале дрыжачым ад выбухаў і пайшоў у хлеў, вывеў каня, сеў на яго і паехаў на пашу. Бацька пайшоў у пуню. Паўднёвы бок станцыі, там дзе быў ваенны склад, гарэў фантанамі агню. Слупы агню ўзвіваліся высока ў неба, а час ад часу вылятаў з полымя, як бомба, вогненны шар і разрываўся. Гэта, відаць, бочкі бензіну падымаліся над агнём, як шары, і распырскваліся вогненным ліўнем. Неба было чыстае. Сонца ўжо на ўсходзе за пажарам паднялося вышэй чым полымя і, здавалася, языкі выбухаў хацелі яго дасягнуць. Самалёты лёталі вельмі нізка і ніхто ў іх не страляў. Я на кані паехаў на захад, на пашу пад лес, павярнуўшыся спіной да пажару. Калі выехаў з вёскі на дарогу, пабачыў над сабою два самалёты. Адзін з іх ляцеў так нізка, што мне здавалася, што ўбачыў за шклом твар лётчыка. Ён праляцеў блізка мяне ў бок Чаромхі. Я нават спалохаўся ці не будзе ён страляць у мяне з кулямёта. Аднак лётчык, відаць, бачыў, што я не салдат і толькі мяне напужаў. Я едучы прыпомніў: некалькі дзён назад, калі ў Бельску-Падляшскім атрымаў я ў школе атэстат заканчэння 7-га класа, у вывешанай на вакзале газеце прачытаў, што Англія паведаміла ўрад СССР, што нямецкая армія стаіць ля Буга і чакае загаду, каб напасці на Савецкі Саюз. Далей было напісана, што ТАСС упаўнаважаны абвергнуць гэтую інсінуацыю і Савецкі Саюз не верыць у правакацыйныя заяўленні Англіі, бо паміж СССР і Германіяй далей пануе згода і дружба, а паводле афіцыйных паведамленняў нямецкія салдаты, якія знаходзяцца на тэрыторыі былой Польшчы, толькі адпачываюць і не з'яўляюцца пагрозай для Савецкага Саюза. У апошнія месяцы я часта чуў у небе гул нямецкіх самалётаў, якія пралятаді і кружылі навокал. Яны лёталі даволі высока, але характэрны гул здраджваў паходжанне шуму. Відаць, яны рабілі здымкі і разведвальныя планы. Калі я яшчэ ездзіў у школу, то з акна вагона бачыў як недалёка чыгункі на лузе паблізу Бельска-Падляшскага, дзе стаялі савецкія ваенныя самалёты, стаяў нямецкі самалёт, які невядома чаму тут прызямліўся. Стаяў ён дзень ці два і пасля адляцеў.

Усе гаварылі навокал, што немцы гатовяцца да вайны. Саветы таксама будавалі бункеры ля Буга. Выганялі ад нас сялян вазіць каменне і часам нават прымушалі там працаваць. Савецкія салдаты гаварылі, што Савецкі Саюз будзе гатовы да вайны з немцамі ў верасні альбо ў кастрычніку 1941 года. І вось немцы іх апярэдзілі на два-тры месяцы.

Прыпомнілася мне, што яшчэ ў кастрычніку 1939 г., калі ў нашым доме стаялі савецкія салдаты, адзін з іх даў мне прачытаць у савецкай газеце кароткае паведамленне, што быццам бы англійская разведка адкрыла ў немцаў нейкую „Белую кнігу", у якой быў пададзены план нападу немцаў на многія краіны. Былі там даты захопу Францыі, Югаславіі, Грэцыі і на канцы было пададзена: чэрвень 1941 г. — СССР.

І чаму Сталін не прыгатовіўся да гэтага нападу? Самалёты лётаюць, кідаюць бомбы, страляюць і ніводная зенітная гармата з Чаромхі і Кузавы не адзываецца. І хаця нямецкія самалёты перасталі ўжо бамбіць станцыю Чаромху, аднак языкі пажару далей шугалі ў неба. Відаць, многа гаручага было на складзе.

Я прыехаў на луг на пашу пад сам лес, спутаў каня і падышоў да групы людзей, якія тут усю ноч пасвілі коней. Яны сядзелі ў кучы і глядзелі на полымя пажару. Запыталіся мяне, што чуваць у вёсцы. Я нічога цікавага не мог ім сказаць. Пасля прыехалі яшчэ двое знаёмых сялян з вёскі на сваіх конях і паведамілі, што старшыня сельсавета так спужаўся, што кінуў усё і паехаў на станцыю Чаромху, каб цягніком уцячы ў Савецкі Саюз.

*(заканчэнне будзе)*

**Дзмітры Шатыловіч**

# Пластычны конкурс

Грамадская камісія аховы помнікаў царкоўнага мастацтва пры Таварыстве аховы помнікаў аб'яўляе штогадовы пластычны конкурс для дзяцей і моладзі. Мэтай конкурсу з'яўляецца зацікаўленне дзяцей і моладзі эстэтычнымі каштоўнасцямі помнікаў царкоўнага мастацтва. Дасыланыя на конкурс пластычныя працы могуць выяўляць існуючыя ў Польшчы помнікі царкоўнага мастацтва — цэрквы, іхняе аснашчэнне, званіцы, прыдарожныя капліčкі, крыжы, праваслаўныя і уніяцкія могілкі.

Конкурс адкрыты для ўсіх ахвотных прыняць у ім удзел. Пластычныя працы могуць быць выкананы любой тэхнікай, а кожны ўдзельнік можа даслаць любую іх колькасць. Вызначаецца чатыры ўзроставыя групы ўдзельнікаў: I (4-7 гадоў), II (8-11), III (12-15), IV (16-18). Працы ўдзельнікі дасылаюць на конкурс за свой кошт, усе яны пераходзяць на ўласнасць арганізатара. На адваротным баку працы трэба пазначыць імя, прозвішча, ўзрост, адрас удзельніка, загаловак працы ды можна таксама адзначыць прозвішча настаўніка, пад кіраўніцтвам якога праца выконвалася.

Працы трэба дасылаць да **30 кастрычніка** кожнага года па адрасе: **Zarząd Główny Towarzystwa Opieki nad Zabytkami, Społeczna Komisja Opieki nad Zabytkami Sztuki Cerkiewnej, ul. Piękna 44a, 00-672 Warszawa, „Konkurs plastyczny”**.

Арганізатары прадугледжваюць узнагароды, вылучэнні, выстаўку прац ды пленэры для ўзнагароджаных удзельнікаў.

# Накармілі

Гэтую гісторыю часта расказваў мой бацька, а я прыводжу яе па простай прычыне: няхай маладыя людзі, якія наракаюць, што цяпер бяда, параўнаюць колішняе санацыйнае жыццё з цяперашнім.

Мой дзед Лярка пайшоў добраахвотнікам на фронт першай сусветнай вайны і хутка загінуў у крэпасці Модлін, адзначыўшыся гераізмам, за які быў узнагароджаны Георгіеўскім крыжам. Бабулька Агафія, маладою ўдавой з пяцю малымі яшчэ сынкамі, падалася ў далёкае бежанства; апынулася яна ў Омску, над вялікай сібірскаю ракой Іртышом. Тамашнія ўлады паклапаціліся пра яе сям'ю: атрымала яна дом, а дзеці пайшлі ў школу; рускія людзі не знуткаваліся над бежанцамі, а дапамагалі ім, як маглі. У Омску бабуля пазнаёмілася з маладым, прыгожым і добрым аўстрыйцам Дзмітрыем Шулем з Галіччыны і павянчалася з ім. У 1922 годзе ўся сям'я вярнулася ў Дубічы на ўсё пустое, дзе ні кала, ні двара. А жыць трэба...

Мой бацька і адзін яго брат, Мяфодзій, згадзіліся пасвіць у Дубічах свіней; пасля пасвілі быдла. Заплатаю за ўсё лета і восень былі тры пуды жыта! А карміць пастушкоў жыхары вёскі згадзіліся па чарзе. А як кармілі? Бывала па-рознаму...

Аднойчы давялося ім харчавацца ў багацея Тараса, які вялікім насмешнікам быў; калісь пісала пра яго „Ніва”, нават пахвальна, але папера ўсё вытрымае. Прыйшлі мой бацька з дзядзькам да яго раніцаю. Тарасава жонка, жанчына добрая і спагадлівая, запрасіла іх за стол і пачаставала як трэба. Тарас незадаволена бурчаў, аднак яна сказала хлопцам: не зважайце на яго і ежце ўсё, што на стале, мае галубчыкі. Калі вечарам хлопцы прыгналі статак свіней і прыйшлі дадому, мая бабуля, а іх мама сказала сваім дзеткам: ідзіце да Тараса на вячэру. Яны зайшлі, а ў хаце быў толькі адзін Тарас, які ляжаў на печы, выставіўшы ногі на бэльку. Калі ён убачыў, што малышы прыйшлі павячэраць, дык адразу загнуў матам, саскочыў з печы, ухапіў палку і з лаянкай накінуўся на дзяцей; тыя ледзь паўцякалі ад пабояў. Бабулька доўга плакала над крыўдаю малых. Мой бацька, калі вырас, некалькі разоў згадваў Тарасу пра тую „вячэру”, а ён маўчаў нос павесіўшы.

А другі багацей Сідар „Ховай Божа” мала лепшы быў ад першага, бо ад яго „пачастункаў” пастушкі былі пастаянна галодныя. А аднойчы Сідар нават паскардзіўся іх айчыму Шулю, што яны яго ў руку не цалуюць! Аднак дзед Шуль даў яму належны адпор: у Расіі, адкуль мы нядаўна вярнуліся, такога дурнога звычаю — цалаваць у рукі — няма.

У яшчэ іншага гаспадара пры нейкім свяце гаспадыня паставіла на стол перад пастушкамі цалкам голыя косці, а гаспадар нават з'едліва цешыўся, што яна так кемліва „накарміла” хлопцаў.

Гэта былі чужыя людзі, аднак і сваякі бывалі не лепшыя. Аднойчы пастушкі зайшлі на снеданне да іх роднага дзядзькі Банадыка, які запытаў іх па-расейску (дзеці яшчэ па-свойму не гаварылі): „А бабок любіце?” Дзеці ўцешыліся, падумаўшы, што будзе смачная бабка: „О, так, любім!” — адказалі. Банадык зарагатаў, як конь, і насыпаў у міску варанага бобу, без хлеба; у кожнай бубцы быў чарвяк.

Большасць гаспадароў, аднак, карміла пастушкоў належна.

**Мікалай Панфілюк**

# Komunikat

Główna Komisja Badania Zbrodni przeciwko Narodowi Polskiemu — Instytut Pamięci Narodowej pragnie udzielić pomocy dziennikarzom niemieckiego „Sterna” — Janowi Christophowi Wiechmannowi i Andrei Röpke. Przygotowują oni publikację o losach polskich dzieci zabieranych matkom — robotnicom przymusowym w Niemczech w czasie II wojny światowej. Zwracamy się zatem do świadków wydarzeń o udzielanie wszelkich informacji na ten temat, które mogłyby być wykorzystane także w publikacji na łamach „Sterna”. Dzieci te — wedle naszych ustaleń — były skazane na zagładę poprzez zagłodzenie lub śmiertelny zastrzyk.

Główna Komisja zwraca uwagę na fakt, że ta forma ludobójstwa, dokonanego na Narodzie Polskim, nie jest dotąd znana opinii publicznej w Niemczech.

W celu złożenia relacji prosimy o zgłoszenie się do Okręgowej Komisji Badania Zbrodni przeciwko Narodowi Polskiemu w Białymstoku, ul. Mickiewicza 5, p. 72.

# Конкурс „Нівы”

Рэдакцыя „Нівы” аб'явіла конкурс ведаў пра Беларусь. Пачынаючы з 23 нумара ад 7 чэрвеня, у дзесяці чарговых нумарах нашага штотыднёвіка змяшчаем пытанні па геаграфіі, гісторыі і культуры Беларусі. Побач друкуем тры адказы, сярод якіх правільны толькі адзін. Правільны адказ трэба пазначыць крыжыкам.

Чытачы, якія да 23 жніўня 1998 г. дашлюць у рэдакцыю дзесяць талонаў з правільнымі адказамі, возьмуць удзел у жараб'ёўцы ўзнагарод: першая — 500 зл., другая — 300 зл., дзве трэція — па 100 зл., дзве падпіскі „Нівы” на 1999 год, два энцыклапедычныя даведнікі па культуры Беларусі. Спісак узнагароджаных будзе апублікаваны ў „Ніве” ад 30 жніўня.

Талоны просім дасылаць усе разам у адным канверце з паметкай: *Конкурс „Нівы”*.

**ТАЛОН № 3**

## Конкурс тыднёвіка Ніва

„Песню пра зубра” напісаў

- ❑ Францыск Скарына
- ❑ Мікола Гусоўскі
- ❑ Канстанцін Астрожскі

**На мой розум**

# Вольны рынак

— Ну, што там навага, дзядзька Ліяш?

— Многа! Кожную раніцу ўключаю радыёпрыёмнік і чакаю, што навага паабяцаюць. І ведаеш, моцна ў Еўропу ідзем. Шпарым без аглядкі.

— Вы што, дзядзька Ліяш? Ці мы калі ў Азіі былі? Увесь час мы ў Еўропе. І то нават у яе цэнтры!

— З радыё і з газет ведаю, што эканоміка ўсяму аснова. А гаспадарча мы жабракі. Так папраўдзе кажучы, то мы ў гэтую Еўропу ўступілі, як у гаўно. Малака ад гаспадароў не скупляюць, бо не аплачваецца ездзіць: мусіць быць адпаведная колькасць. Збожжа браць не будуць бо задарагое. На Захадзе танней. Усё ў нас не аплачваецца. А прыедзе такі немец, ці хто яго там ведае яшчэ хто, купіць зямлю і ім усё аплачваецца. Экалагічна. То што, у мяне горшая экалогія, калі я канём зару і пад гной бульбу пасаджу, чым у яго на навозах? О, Герэк то дбаў пра селяніна! Усё бралі. На панадворак прыязджалі. Бралі прытном — і жывіну, і збожжа, і бульбу. А цяпер, неяк на днях да суседа прыехала двух мардастых кормніка ды цёлку купляць. Шчупалі, мацалі, нібы баба курку, цмокалі — то тут захудое, то там затлустае. Прычапіліся, што ў ялошкі хрыбет крывы, як бы гэта мела ўплыў на смак мяса. І не ты цану даеш, а ён. І прадаў, бо дзе яе збудзеш?

— Бо ведаеце, дзядзька Ліяш, чым большая гаспадарка, тым меншы кошт вытворчасці. А калі яно так, то і танней можна прадаць. Бачыце, вы жывяце самі і самі сабе варыце. А каб з вамі жыло, скажам, яшчэ двое, то і яны б пры вас пракарміліся. А кошт быў бы амаль той жа.

— Тут ты кажаш праўду. Калі вару сабе кулеш, то якая там цяжкасць яшчэ дзве кварты вады даліць. Але мне здаецца, што мы ў гэтую Еўропу аднабакова пайшлі. На Захадзе ад нас купляць не хочуць, а ад Усходу самі мур ставім.

— Гэта палітыкі. Новая ўлада — новыя парадкі.

— І ад гэтых парадкаў Беласток з торбамі пойдзе. А што, можа няпраўда? Чаго тады беластоцкія камерсанты на мяжы ў Кузніцы баставалі, калі рускім граніцу закрылі? Сам чытаў, што за мінулы год уплывы з гандлю на Беласточчыне былі ў межах аднаго мільярда новых злотых. А зараз дуля агарамадная. Не палітыкі і гаспадары гэта, але звычайныя карытнікі. Аднойчы ў Бельску на рынку рускую спаткаў, якой удалося ваўчэр купіць. І ведаеце, што сказала? А сказала проста ў вочы: „Ну і дурныя вы, палякі! Я думаю, што беднымі вы будзеце людзьмі, калі мы не прыедзем. Не прыедзем мы — і заробку не будзе”.

— Яно, то праўда, дзядзька Ліяш, але цяпер вольны рынак.

— І ўся бяда ў тым, што ён вольны. Праз гэтую вольнасць мая сванька ўвесь агарод, што пад Васількавам, на дачы змарнавала. Прачытала неяк, не ведаю ў якой газеце, што якаясьці суполка зямлю пад гародніну прадае. Зайшла па пададзеным адрасе. А там крывяцца, што хвілінныя цяжкасці, чакаць трэба. Ведалі жулікі, што вясна набліжаецца. Яны цмокаюць, а яна ўпрошвае. Урэшце пытаюць: „Ну, якую зямлю вы б хацелі? Маем цяпер толькі пад бульбу, капусту і памідоры”. І згадзіліся, што кожнай па самазвале прывязуць. Прывезлі, звалілі. Нават разраўнялі. Саромелася прызнацца, колькі заплаціла, але вядома, што навесну нават трава не хацела ў агародзе расці. Рашыла нават заплаціць, каб прыехалі і забралі гэтую зямлю, але выявілася, што ўжо фірмы тае няма. Вось табе і вольны рынак, і новая палітыка! Са старым не справіліся, а Японію будаваць хацелі.

**Міхаль Пашкоўскі**


**Ніва**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

***Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.***

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com

INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Міраловіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1998 r. upływa 5 września 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



*Што гэта такое?* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Гол Лыкашэнкі

Чэмпіянат свету па футболу набраў скорасці. Па французскіх стадыёнах спартсмены розных замежных нацый стараюцца паказаць сваю перавагу над спартсменамі другіх нацый. Беларускія футбалісты, як вядома, выказаліся самым адчайным патрыятызмам у сваёй адборачнай групе, займаючы такое месца, якое ў ніякім выпадку не пагражала ім развітання з роднаю зямелькай, каб бараніць вароты замежнай прадукцыі на чужых ім французскіх стадыёнах. Гэтае грандыёзнае дасягненне знайшло самае дастойнае прызнанне ў самага першага Балельшчыка, а заадно і Футбаліста Рэспублікі — любімейшага ўсім прагрэсіўным светам нашага Прэзідэнта. Футбольныя фанаты напэўна дасканала ведаюць, што ён сам выдатна забівае мячы ў вароты сапернікаў. Вось, напярэдадні старту сусветнага першынства з удзелам зборных нялюбых Прэзідэнту дзяржаў, рашыў Ён паказаць усім ім, гэтай міжнароднай касмапалітычнай спартыўнай мафіі, хто ў сапраўднасці вызначае перадавы ўзровень футбола Планеты. Улады Рэспублікі, а вядома, хто іх увасабляе, далі двaццаці двум замежным пасольствам у Менску загад пакінуць іхныя цяперашнія рэзідэнцыі. Размешчаны яны ў Драздах — побач рэзідэнцыі Прэзідэнта! Можа тут узнікнуць пытанне: а што супольнага з футболам маюць тыя пасольствы? Можа здацца, што абсалютна нічога, аднак калі дэтальна прыгледзецца, тады выявіцца адна красамоўная дэталь: зборныя краін-удзельніц французскага чэмпіянату налічваюць якраз па дваццаць два ігракі — а столькі ж дакладна пасольстваў атрымалі загад „Вон з Драздоў!" Не такі з Прэзідэнта зноў калгаснік, каб не ведаў такіх футбольных азаў — чалавек ён, што ні гаварыць, цывілізаваны! І вось можна спадзявацца, што і зборная Прэзідэнта будзе налічваць таксама, як і ў другіх зборных, дваццаць два ігракі. І ў прызнанні для іх высокага спартыўнага майстэрства, нараздзельна звязанага з праяўленым імі ў адборачны перыяд патрыятызмам, будуць ім адведзены тыя дваццаць дзве рэзідэнцыі! А і сам Прэзідэнт, ганяючы разам са сваёю зборнай мячы па Драздах, будзе мог забіваць тыя мячы ў вароты пасольстваў ЗША, Францыі, Польшчы і другіх агідных яму дзяржаў. Знай нашых: хітры Джон, Франсуа ці Лех, ды і Сашка не **ЛЫКАМ** шыты!

**Адам Маньяк**

Фрашкі пра нашых

## Цюцік

Ці не шкада крышку сабакі на сене  
Або ў агародзе: так моцна стараецца,  
Каб іншы не ўзяў сцяблінкі, карэння;  
І шчыра так яхкае, сардэчна лаецца  
На ўсіх, каму і косткі і мяса не трэба,  
Не патрэбна і будка, хай бы шыкоўная?  
Сам не зжарэ, і не дасць палакоміцца  
Іншаму, ды й самому зусім не аскоміцца.  
З нянавісцю брэша за добрае слова,  
Дасць пан у морду — найбольш адмысловай  
Сімфоніяй гаўкаў на сваіх захліснецца.  
Да сабачай работы трэба мець сэрца!..

**Вандал Арлянскі**

## Карыснасць запаведніка

Так, я парсючок, але не такі ўжо просты — маўляў, вылежваецца сабе пад лавачкай і бульбачку грызе. Адкуль дэпутат Срачкевіч з прэзідэнтам Смургелем узнялі праблему стварэння запаведніка для беларусаў, мой парсючковы стандарт ірвануўся стромка ўгару, па-за рамкі вызначаныя песеннаю грызнёй бульбачкі пад гэтай жа лаўкай.

Што тут і казаць, мазгавітыя Срачкевіч і Смургель — але яшчэ больш мазгавітыя аказаліся беларусы, бо ўпершыню ўзняліся вышэй за свой чалавечы лёс і... згадзіліся на запаведнік. Упершыню не загаварылі гэтай высокароднай ідэі на смерць. Ой, а майстры яны ў гэтым, у гэтай сваёй чалавечай гаварыльні.

Перш за ўсё два паветы зацягнулі калючым дротам, ствараючы энклаў. Не беларусу туды патрапіць — патрабуецца віза. І гэта першая крыніца нашага тут багацця. Бо за візы ў наш энклаў проста забіваецца ўвесь чалавечы род. Пры галоўным уездзе ніколі не канчаецца чарга — палітыкі, паважаныя бацькі сем'яў, бізнесмены, крутыя тыпы, мачалкі. Лямант, віск, енк, гоман, рык. Пхаюцца адзін на аднаго бы тыя людзі, каб толькі хутчэй у наш запаведнік. І нічога дзіўнага, бо ў нас нарыхтавана для іх ўсё, што толькі найгоршага прыдумаў чалавечы род за сваё існаванне...

Найвялікшае даенне і выцыцкванне грошай адбываецца ў казіно — яны ў нас тут на кожным вулічным рагу. Палітыкі, паважаныя бацькі сем'яў, бізнесмены, крутыя тыпы, мачалкі ды ўсе іншыя ідыёты глядзяць як тут толькі распусціць свой цяжка запрацаваны грош пры рулетачным стале або пры аднарукім бандыце. Над ранiцай, калі ўжо сыграюцца да галізны, выспяткамі праводзіць іх да выхаду ахова: „На жаль, сэр, але ў вас ужо закончылася фінансавая здольнасць на сёння. Запрашаем заўтра".

Ніколі не зразумею, чаму чалавечы род так ліпне да наркотыкаў, а яны ў нас легальныя і ў кожнай краме. Набярэцца, накурыцца, нанюхаецца адзін з адным, а потым валяюцца пад плотам бы тыя людзі. Мне там нічога да гэтага — я ў запаведніку толькі працую. І хаця раблю ў даволі небяспечным сектары — адгароджаны ён ад рэшты энклава высокім мурам — не нараканю на свой лёс. Збіраецца тут увесь мазахісцкі зброд, каб пастраляць удоваль, памардавацца, пазабівацца, пакатавацца і пазарэзвацца нажом (калі ў каго такое жаданне). Я, парсючок, жыццёвай амбіцыяй якога ў дазапаведнікавую эпоху была грызня бульбы пад лаўкай, з'яўляюся ў гэтым сектары вельмі важным героем — выконваю функцыю чучала для забівання чалавечым мазахісцкім збродам. Прафесія небяспечная, я ўвесь час размаляваны ў зялёна-карычневы маскавальны пасяк, увесь час уцякаю праз тарфянікі, імшары, лясы і пералескі, а мяне ўвесь час палююць, даганяюць і забіваюць.

Прафесія ёсць прафесія — вельмі прыбытковая яна. Я ніколі не памяняў бы яе на карытка з бульбачкай пад лаўкай, як гэта было ў дазапаведнікавую эпоху. Я вельмі ўдзячны беларусам, што ўзняліся яны вышэй за свой чалавечы лёс і здзейснілі гэты запаведнік. Хрум-хрум, qui.

**Сцяпан Абух**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. граф за яго важнейшы, 4. прэзідэнцкае імя, 6. частка тэксту ў адной лініі, 7. частка года, 9. прыток Волгі, 11. маці сланяняці, 12. невялікая скрынка, 13. металічны злучальны стрыжанёк, 15. абагатвораная з'ява прыроды, 17. тоўстая вяроўка, 18. крыніца размнажэння, 19. гадасць.

**Вертыкальна:** 1. гнуткая частка шкілета, 2. яркае святло, 3. пясок нанесены ветрам, 4. урач у клініцы, 5. грабежнік, 6. страва з сечанага мяса ў выглядзе батона з начынкаю, 8. насціл, 9. абрэвіятура назвы арганізацыі, якую ўзначальвае Кофі Анан, 10. важны ўчынак, 14. радзіма Сервантэса, 16. можна яго падліць у агонь, 17. рака ў Афрыцы.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 19 нумара**

**Гарызантальна:** стол, рэтра, асанна, смог, Тарту, астрог, чарнушка, Атлас, Гаўптман, Картасар, Чэнду, „Лаэнгрын", альянс, кліка, хана, абцугі, эліта, Ліль.

**Вертыкальна:** дэсант, прытча, Таманага, Лагаш, шахта, „Антон", Ускаран, скупшчык, арка, лорд, амін, Анжу, арыгінал, Энліль, дакота, Альба, лясун, Эсхіл.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Чаму не страляеш!? — крычыць сяржант на салдата.

— Бо пан сяржант глядзіць на мяне.

— Дык што?

— Вы ж самі ўчора гаварылі, што вам зубы баляць, калі глядзіце на маю стральбу.

* * *

Да дырэктара балетнай школы прыходзіць малады мужчына:

— Я з'яўляюся вядомым масажыстам і за пяцьсот злотаў у месяц буду штодзень масаваць усіх вашых танцоўшчыц.

— Калі ласка! Давайце мне тыя грошы і прыступайце да працы.

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:

— Не ўяўляеш, якая я шчаслівая: учора Войтэк зрабіў мне прапанову!

— Веру табе: ён заўжды робіць прапановы з вялікай фантазіяй і такім жа шыкам.

* * *

Жонка ляжыць на смяротным ложы. Адчайны муж пытае яе:

— Прызнайся, каханая, ці на працягу нашага шчаслівага сужыцця здрадзіла ты мне калі-небудзь?

— Так, здарылася такое два разы.

— А з кім?

— Першы раз з футбольнаю камандай, а другі раз з сімфанічным аркестрам.

* * *

— Адны, мая пані, гавораць, што Гітлер загінуў, другія — што жыве...

— Дарагая пані! Я ні ў адно, ні ў другое не веру.

* * *

— Я ніколі не здрадзіла сваму мужу.

— Хвалішся ці скардзішся?

* * *

Між суседкамі:

— Пасля трыццаці гадоў шчаслівага сужыцця даведваюся, што мой муж любіць каштанававалосых семнаццацігодак а не сівых, як я, жанчын з трыма дзяцьмі.

* * *

— Добры дзень, суседка! Ці чулі вы апошнюю навіну пра Кавальскіх?

— Не, не чула.

— А я чула, што вы ўжо чулі!